ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XXI. № 168 Нью Ёрк April — Красавік — 1971 New York Vol. XXI. № 168

# РАЗЬДЗЬМУХВАНЬНЕ ВАЕННАГА ПСЫХОЗУ НА БЕЛАРУСІ

## 1. У ШКОЛАХ


...УСЯМЕРНА САДЗЕЙНІЧАЦЬ УМАЦАВАННЮ АБАРОННАЙ МАГУТНАСЦІ СССР...

Матэрыялы гэтых старонак падрыхтавалі журналісты Аляксандра ШАУНЯ, Яфім ІВАНОВІЧ, Восіп ЛІФШЫЦ, Фота Паўла НІКІЦІНА, Юрыя ЗАХАРАВА.

«НАСТАЎНІЦКАЯ ГАЗЕТА» 3 стар.

Вышэй мы зьмясьцілі фотарэпрадукцыю выразкі з 3-яй бачыны менскай штодзённай „Настаўніцкай газэты" за 27 сакавіка сёлета. Ілюстрацыя й подпіс пад ёй — гавораць самі за сябе. Менская 20-ая дзесяцігодка, пра ваеннае ўзгадаваньне ў якой ход у зьмешчанай фотарэпрадукцыі, гэта ня вынятак, а адзін з прыкладаў нябывалага разьдзьмухваньня ваеннага псыхозу ўва ўсім школьніцтве БССР.

## 2. У КАЛГАСАХ

Падобная падрыхтоўка да абароны перад зброяй масавага зьнішчэньня на выпадак вайны шырака вядзецца і ў сельскіх мясцовасьцях — у калгасах і саўгасах Беларусі. Ніжэй зьмяшчаем дакладны тэкст радыяперадачы Радыя-Менск (запісаны на магнітафонную йстужку мюнхэнскім радыем „Свабода") з 26 лютага сёлета з цыклю „Насельніцтву пра грамадзянскую абарону". Узноў-жа калгас імя Леніна Гомельскага раёну, пра які ход у радыяперадачы, таксама ня вынятак, а адзін з прыкладаў разьдзьмухваньня ваеннага псыхозу і ў калгасах ды саўгасах Беларусі. Вось тэкст згаданае радыяперадачы:

„Сёньня мы раскажам, як правадзіліся вучэньні па грамадзянскай абароне ў калгасе імя Леніна Гомельскага раёну.

З раённага штабу грамадзянскай абароны паступіў вучэбны сыгнал пра пагрозу нападу праціўніка. Была неадкладна прыведзеная ў дзеяньне сыстэма апавяшчаньня. У розныя канцы калгасу паехалі сувязныя. Начальнік штабу чалгасу стаў выклікаць па тэлефоне галоўных спэцыялістаў гаспадаркі й брыгадзіраў. Праз некаторы час у доме культуры сабраліся кіраўнікі калгасу й камандзіры фарміраваньня грамадзянскай абароны. Як начальнік грамадзянскай абароны калгасу, старшыня праўленьня Фёдар Давідавіч Кузубаў зачытвае загад: „У сувязі з узьнікшай пагрозай нападу, — гаворыцца ў загадзе, — трэба неадкладна загэрмэтызаваць жывёлагадоўчыя памешканьні, забясьпечыць запас кармоў, закрыць іх ад магчымага пранікненьня радыяактыўнага пылу". Тут-жа старшыня калгасу даў загад прыняць меры да аховы людзей і жывёлы, арганізаваў пашыўку прасьцейшых сродкаў аховы органаў дыханьня для калгасьнікаў, торбаў для племеннае жывёлы. Тут-жа ўдакладнілі зыходныя дадзеныя калгаснага пляну грамадзянскае абароны, абавязкі асабовага саставу, назначылі кругласутачнае дзяжурства. Неўзабаве несельніцтву вёсак, што ўваходзяць у зону грамадзянскай абароны калгасу, праз радыё апавясьцілі пра небясьпеку. Усе разыйшліся па сваіх месцах і прыступілі да выкананьня ахоўных мерапрыемстваў. У работу ўключыліся радавыя калгасьнікі. На фэрмах і складах застукалі сякеры, зазьвінелі пілы. Вокны кароўнікаў і збожжасховішчаў накрываюцца толям, брызэнтам, закладываюцца цэгламі, забіваюцца дошкамі. Выкарыстоўваецца й іншы падручны матар'ял, як саламяныя маты й плёнка. Прыводзяцца ў гатоўнасьць індывідуальныя сродкі аховы, а калгасьнікі Сыркова, Узубанава, Трабышэўская, Лепяшкова, Барабанава спрытна шыюць супрацьпылавыя тканевыя маскі.

Камандны пункт грамадзянскае абароны калгасу разьмясьціўся пад зямлёй у надзейным жалезабэтонным сховішчы. Яго зьмясьцілі побач з канторай калгасу. Тут калгасны штаб вучыцца кіраваць фармаваньнем грамадзянскае абароны. Камандны пункт забясьпечаны радыятэлефоннай сувязяй і прыборамі радыяцыйнае і хэмічнае разьведкі... Усюды працуюць апэратыўныя групы. У гэты час з каманднага пункту данеслося: „Паветраная трывога!" Усе пасьпяшаліся ў спэцыяльна абсталяваныя й прыстасаваныя сховішчы. Але зьвяно разьведкі забясьпечанае газамэтрычнымі прыборамі, індывідуальнымі сродкамі аховы й тэлефоннаю сувязяй, застаецца на назіральным пасту. Заданьне зьвяна — абсьледваньне паветра й мясцовасьці на заражаных радыёактыўнымі й атрутнымі рэчывамі. Разьведчык — калгасьнік Пётра Красін ужо выявіў выпаданьне радыяактыўнага пылу. Спэцыяльным прыборам ён мерыць ступень заражанасьці й узровень радыяцыі...

На вэтэрынарнай пляцоўцы праводзіцца старанная апрацоўка жывёлы. Справа ў тым, што частка жывёлы засталася пад гэрматызаванымі памешканьнямі. Кіраўнік каманды галоўны заатэхнік калгасу Сапкоў прысьпяшае таварышаў: „Марудзіць нельга, чым даўжэй радыёактыўны пыл затрымаецца на целе жывёлы, тым большую дозу апраменьваньня яна атрымае". На заражаную палавіну заводзіць карову. Газамэтрыст спэцыяльным прыборам вымярае ступень заражанасьці жывёлы. Яна аказалася вышэй за дапушчальную норму. З шэрсьці каровы трэба зьмесьці радыяактыўны пыл. І галоўны заатэхнік загадвае таварышом апрануцца у спэцыяльнае ахоўнае адзеньне й зьмесьці пыл. Затым ізноў вымяраецца ступень заражанасьці. Рызьзём, шчоткамі, венікамі з жывёлы зьмятаюць радыяактыўны пыл, а затым зноў правяраюць ступень заражанасьці. Яна аказваецца дапушчальнай і жывёлу выводзяць...

Старшыня райвыканкому Г. Д. Чарняк, адзначыў што калгас імя Леніна добра рыхтуецца да аховы ад зброі масавага паражэньня. Ягонае кіраўніцтва й радавыя калгасьнікі актыўна ўдзельнічаюць у мерапрыемствах грамадзянскай абароны, умела выконваюць ускладзеныя на іх абавязкі. Старшыня райвыканкому падзякаваў ім за выдатныя дзеяньні на вучэньні".

## 3. І УСЮДЫ

Пра тое, што ваенная гарачка з прычыны ўяўнае загрозы заатакаваньня кімсьці Савецкага Саюзу зброяй масавага зьнішчэньня зьява ў Беларусі агульная й масавая, што існуе й спраўна дзеіць густа зарганізаваная сетка грамадзянскай абароны ды робяцца канкрэтныя мерапрыёмствы на выпадак раптоўнага заатакаваньня Савецкага Саюзу, найлепш сьветчыць артыкул „По пути совершенствования", надрукаваны ў сталай рубрыцы „Беседы о гражданской обороне" ў расейскамоўнай менскай газэце „Советская Белоруссия" за 11 сакавіка сёлета. Артыкул падпісаны не абы-кім, а самым начальнікам штабу грамадзянскай абароны БССР генэрал-маёрам А. Ціхуном. Ніжэй падаём у перакладзе на беларускую мову найбольш характэрныя ўрыўкі з гэтага артыкулу:

„... На многіх аб'ектах народнае гаспадаркі ёсьць добра абсталяваныя сховішчы. Тут кажная сям'я работніка й служачага ведае, куды і ў якім парадку трэба ёй падацца пасьля абвешчаньня грознага паларжэньня, у якім сяле, у якім доме будзе ёй забясьпечанае разьмяшчэньне"...

„... Актывізавалі сваю дзейнасьць у гэтым кірунку камсамольскія, прафсаюзныя і іншыя грамадзкія арганізацыі. Больш шырака й зьмястоўна выдзецца прапаганда грамадзянскай абароны ў прэсе, у радыё, на тэлебачаньні, а таксама лектарамі таварыства „Веда".

„... Разам з гэтым узрослыя патрабаваньні да грамадзянскай абароны, ускладненыя заданьні ставяць пытаньні аб далейшым палепшаньні падрыхтоўкі кадраў. Кіраўнічы й камандна-начальніцкі склад грамадзянскай абароны абавязаны ўсьцяж папаўняць і паглыбляць свае веды. Дзеля гэтага павінны быць выкарыстаныя ўсе магчымасьці, у першую чаргу шырокая сетка курсаў, разгорнутая ў рэспубліцы. Курсавую падрыхтоўку прайшлі многія начальнікі грамадзянскай абароны ў Менскай і Віцебскай вобласьцях..."

„... Многія міністэрствы, ведамствы, установы, штабы й службы грамадзянскай абароны паважна рупяцца пра падрыхтоўку нашай моладзі да абароны ад зброі масавага зьнішчэньня. Добра, прыкладам, пастаўленае навучаньне студэнтаў у Беларускім палітэхнічным, Магілеўскім машынабудаўляным, Віцебскім вэтэрынарным, Горадзенскім мэдыцынскім інстытутах. Тут навучаньне праводзіцца з улікам профілю навучальнай установы, створаная неабходная навучальна-матарыяльная база, заняткі вядуць кваліфікаваныя выкладчыкі..."

„... Дзякуючы руплівасьці партыйных і савецкіх органаў, творчай ініцыятыве начальнікаў і ўсіх працаўнікоў штабаў значна палепшылася падрыхтоўка жыхарства ў сельскай мясцовасьці. У многіх калгасах і саўгасах створаная навучальная база, якая дазваляе сыстэматычна праводзіць заняткі з асабовым складам фармацыяў і жыхарствам. Умела й мэтанакіравана, прыкладам, вядзецца падрыхтоўка да грамадзянскай абароны ў Маладэчынскім, Гомельскім, Клімавіцкім Пружанскім, Шчучынскім і іншых раёнах. Прыкладам могуць служыць гэткія гаспадаркі, як саўгас „Сьвеклавічны" Нясьвіскага, калгас „Мір" Баранавіцкага, саўгас імя Янкі Купалы Маладэчынскага, калгас „Беларусь" Добрускага раёнаў і іншыя, дзе пытаньням падрыхтоўкі жыхарства і гаспадарак у цэласьці да абароны перад зброяй масавага зьнішчэньня даецца належная ўвага..."

„... На працягу навучальнага году жыхарству трэба здаць абавязкавыя экзамены па праграме грамадзянскае абароны. Камісіі для прыняцьця экзаменаў ад работнікаў, службоўцаў і калгасьнікаў павінны ачоліць кіраўнікі аб'ектаў — начальнікі грамадзянскай абароны..."

„... Заданьні, што стаяць цяпер перад грамадзянскай абаронай, складаныя й размавітыя. Рэч у тым, каб замацаваць дасягнутае, усьцяж удасканальваць падрыхтоўку жыхарства да абароны перад зброяй масавага зьнішчэньня, ствараць неабходныя абставіны, якія забясьпечвалі-б надзейную абарону ад адзернай, хэмічнай і бактэрыялягічнай зброі. Можна ня сумлявацца, што ўсе вязьмы й органы грамадзянскай абароны, увесь ейны актыў справіцца з пастаўленымі заданьнямі".

## 4. ШТО УСЁ ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ?

Беларускаму чытачу ў Вольным Сьвеце, прачытаўшы вышэй прыведзеныя аўтэнтычныя савецкія матарыялы, цяжка паверыць сваім вачом, што нешта падобнае дзеіцца сяньня на Беларусі. Калі ўсё гэта браць паважна і ў ягоным беспасярэднім сэньсе, дык выглядае, што вайна г. зв. „капіталістычнага сьвету" пад правадырствам Амэрыкі супраць Савецкага Саюзу вісіць на валаску, а ейны выбух — справа кароткага часу. Іншыя маглі-б падумаць, што гэта нейкі жарт, які, ня ведаць зь якой прычыны й дзеля якой мэты, трапіў на бачыны беларускай савецкай прэсы ды прагучэў у эфіры.

Нажаль, зьмешчаныя вышэй матарыялы трэба браць паважна. Але тады нельга вызваліцца ад іншага пытаньня: няўжо савецкія кіраўнікі страцілі ўсякае пачуцьцё рэальнасьці й цьвярозы розум? Няўжо яны ўзапраўды вераць, што Захад, дакладней Амэрыка, вось-вось пойдзе крыжовым паходам на Савецкі Саюз? Няўжо дзеля гэтае ўяўнае й пазбаўленае найменшых рэальных асноваў загрозы вядзецца сяньня татальная мабілізацыя беларускага народу дзеля абароны перад зброяй масавага зьнішчэньня й трацяцца на гэта вялізарныя сумы грошай?

Нажаль, робіцца ўсё гэта з халодным разьлікам і глыбока прадумана ня дзеля таго, што ваенная загроза маўляў узапраўды існуе. Не, савецкім верхаводам Бог яшчэ не адабраў нагэтулькі розуму, каб яны паважна маглі верыць у тое, перад чым перасьцерагаюць. Яны добра й цьвяроза расцэньваюць сяньняшнюю міжнародную сытуацыю й цьвёрда пераканаными, што ніякая вайна з боку Вольнага Сьвету ім не пагражае, апрача тэй, якую справакуюць самі.

На нашую думку, могуць быць дзьве розныя прычыны шалёнага разьдзьмухваньня ваеннага псыхозу ў Савецкім Саюзе. Адна зь іх тая, што Саветы ўзапраўды плянуюць справакаваць у бліжэйшым часе вайну, зразумела такую, каб сябе паказаць у ёй не аргэсарамі, а ахвярамі агрэсіі, падобна як Савецкі Саюз на супалку з чырвоным Кітаем справакаваў ужо вайну ў Карэі, а тады ў Ветнаме. Як ведама, у вабедзьвюх гэтых войнах у якасьці імпэрыялістычнага агрэсара зьвінавачваецца Амэрыка, тымчасам як Амэрыка выступіла у Карэі й Ветнаме ў вабароне Вольнага Сьвету перад камуністычнай агрэсіяй. Сяньня Саветы правакуюць падобную вайну на Сярэднім Усходзе.

Абедзьве згаданыя войны — у Карэі й Ветнаме Амэрыка, у боязі перад вайной глябальнага маштабу, зьлякалізавала адно да тэрыторыі беспасярэдняй камуністычнай агрэсіі, пакідаючы ў супакоі фактычных агрэсараў — Савецкі Саюз і камуністычны Кітай. Але савецкія верхаводы мусяць лічыцца з тым, што не заўсёды будзе ім удавацца, кажучы ведамым шаблёнам савецкае прапаганды, заграбаць жар чужымі рукамі. Яны разумеюць, што ў выпадку справакаваньня імі новае хай сабе таксама лякальнае, вайны, праціўнік, у мэтах канчатковае перамогі, ня будзе бачыць іншага выхаду, як пашырыць такую вайну й на галоўнага й фактычнага агрэсара. Таму і ўся гэтая гарачка татальнае падрыхтоўкі да абароны перад зброяй масавага зьнішчэньня.

Ня менш праўдападобная і іншая эвэнтуальнасьць. Магчыма, што Саветы не плянуюць у бліжэйшым часе і гэткай ды наагул ніякай вайны, а сяньняшні іхны ваенны псыхоз патрэбны ім ня дзеля ваенных, а чыста палітычных, і то нутрана-палітычных мэтаў. Але і ў вадным і ў другім выпадку ім конча патрэбна, каб у ваенную загрозу з боку Амэрыкі паверылі народы Савецкага Саюзу, у дадзеным выпадку беларускі народ.

## 5. ПАТРЭБА ЗГАНЬБІЦЬ АМЭРЫКУ

Рэч у тым, што сярод беларускага народу існуюць і сяньня вялікія сымпатыі да Амэрыкі, як наймагутнейшае ў цэлым сьвеце палітычнае, эканамычнае й маральнае сілы, як зарукі матарыяльнага дабрабыту й жыцьцёвага прагрэсу. Не зважаючы на тое, што ў пасьлясталінскім пэрыядзе агульныя абставіны жыцьця ў Савецкім Саюзе значна палепшыліся, тым ня менш, падсавецкія народы ня чуюцца задаволенымі із свае долі, чакаюць чагосьці лепшага, лятуцаць пра новыя зьмены. Беларускі народ, сярод якога цімала яшчэ былых „Амэрыканцаў", а сяньня й шмат суродзічаў у Амэрыцы, зьвязвае свае надзеі на лепшую будучыню з Амэрыкай, ад Амэрыкі чакае зьдзейсьненьня сваіх запаветных лятуценьняў. Зусім зразумела, што гэткія настроі, хай сабе й несканкрэтызаваныя й дакладна неўсьвядомленыя, становяць вялікую перашкоду ў гэтак званым паходзе да камунізму. Вось чаму камуністычным верхаводам патрэбна за ўсякую цану захістаць веру беларускага народу ў Амэрыку, а традыцыйныя сымпатыі да яе замяніць нянавісьцяй і пачуцьцём страху перад новай вайной, быццам рыхтаванай амэрыканскім імпэрыялізмам.

Беларускі народ найбольш пацярпеў ад мінулай вайны, калі кажны чацьверты Беларус загінуў у ваеннай завірусе, калі тысячы беларускіх вёсак былі спаленыя, а цэлыя сотні вёсак спаленыя разам зь людзьмі, калі ад беларускіх гарадоў засталіся адны руіны й папялішчы, калі ў першыя паваенныя гады бушавалі страшны голад і эпідэміі. Вось чаму беларускі народ сяньня інстынктоўна баіцца новае вайны.

Цынічна выкарыстоўваючы гэты зусім натуральны страх перад новай вайной, савецкая прапаганда намагаецца пераканаць што якраз Амэрыка гарачкава рыхтуе сяньня новую сусьветную бойню, якая прынясе яшчэ большыя, чымся мінулая вайна, спусташэньні Беларусі.

Ды бяда ўся ў тым, што падсавецкія народы, навучаныя багатым собскім пазнаньнем, ня вераць словам савецкае прапаганды. Таму партыя хапілася за несамавіты сваёй лёгікай, але абгрунтаваны псыхалягічна прапагандавы манэўр: стварыць канкрэтную бачнасьць ваеннае загрозы. Разьлік на тое, што калі людзі пабачаць, якія каляссальныя й каштоўныя мерапрыёмствы робяцца дзеля абароны перад зброяй масавага зьнішчэньня, значыцца загроза ўжыцьця гэтае зброі зусім рэальная. Людзі будуць змушаныя падумаць: „Ага, усё гэта робіцца, мусіць, не дарма! Усё-ж Амэрыка ўзапраўды плянуе нападу на Савецкі Саюз ды ўжыць зброю масавага зьнішчэньня — ядзерную, хэмічную й бактэрыялягічную перш-наперш на Беларусі, што сваім геапалітычным палажэньнем становіць натуральныя вароты ў паходзе на Савецкі Саюз!" Псыхалягічна разьлічана вельмі тонка!

Ваенны псыхоз разьдзьмухваецца сяньня ў цэлым Савецкім Саюзе. Але на Беларусі ён асабліва вялікі. Чаму якраз Беларусь удастоілася асаблівай увагі Крамля, будзе ход у наступным нумары нашае газэты.

**Дзівасіл**

**ПРОСІМ АПЛАЦІЦЬ ПАДПІСКУ ЗА 1971 ГОД**

## У НЬЮ ЁРКУ

Дзень 25 сакавіка сёлета быў афіцыйна абвешчаны Днём Беларускай Незалежнасьці ў штаце Нью Ёрк губарнатарам штату Нэльсанам Рокфэлерам. У сваёй Праклямацыі, выдадзенай з гэтае нагоды, Губарнатар заклікаў усіх жыхароў штату далучыцца да Беларусаў у іхным сьвяткаваньні ды пажадаў, каб ідэялы Акту 25 Сакавіка 1918 году былі як найхутчэй зьдзейсьнены. Падобную Праклямацыю выдаў Губарнатар суседняга штату Нью Джэрзі Вільям Кагіл, абвяшчаючы ў сваім штаце дзень 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі.

Сьвяткаваньне 53-іх угодкаў Незалежнасьці Беларусі ў Нью Ёрку адбылося ў нядзелю 28 сакавіка й было зладжанае Галоўнай Управай і Аддзеламі БАЗА ў Нью Ёрку, Нью Джэрзі й Лёнг Айлэнд. Пачатае ўрачыстым Божаю Службаю ў Катадральным Саборы БАПЦарквы сьв. Кірылы Тураўскага, адпраўленай а. а. Васілём Кендышам і Карпам Старам, сьвяткаваньне прадаўжалася ў Вілтмор Гатэлі ў Нью Ёрку.

Урачысты Сход адчыніў старшыня Ньюёркаўскага Акругова Аддзелу БАЗА Мікола Кунцэвіч і, пасьля малітвы а. Васіля Кендыша й прапяяньня амэрыканскага гімну сп-няй Э. Маркоўскай, у колькіх словах падчыркнуў важнасьць угодкавай падзеі. Тады папрасіў усіх прысутных ушанаваць памерлых змагароў за незалежнасьць Беларусі хвілінаю цішыні.

Далейшае вядзеньне Сходу было перададзенае сп-ні Веры Бартуль, якая вельмі цікава й міла выканала ўзятую на сябе функцыю.

Старшыня Галоўнае Управы БАЗА В. Станкевіч прывітаў прысутных і выкарастаў урачыстую нагоду, каб паведаміць пра найважнейшыя падзеі ў беларускім жыцьці на працягу мінулага году. Былі ўспомнены гэткія факты:

— Беларускі пераклад усяе Бібліі — першы пасьля перакладу Францішка Скарыны — і выхад друкам сёлета ейнага Новага Закону;

— Нясупынны пасыўны супраціў партыйнай лініі беларускай творчай інтэлігенцыі ў БССР, выяўлены на XXVII зьезьдзе Камуністычнай Партыі Беларусі;

— Выхад у БССР пашквільнай кнігі „На задворках", як найзырчэйшы выяў савецкае рэакцыі на нацыянальную дзейнасьць беларускае эміграцыі;

— Заснаваньне шэрагу Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў у ЗША, а за гэтым і заіснаваньне новае беларускае палітычнае сілы;

— Распачацьце акадэмічнай дзейнасьці д-ра Янкі Запрудніка выкладаньнем гісторыі СССР у Квінс Каледжы;

— Заканчэньне перакладу ў ангельскую мову гісторыі Беларусі Язэпа Найдзюка прафэсарам Калюмбійскага ўнівэрсытэту Мэнінгам;

— Заснаваньне новага прыходу БАПЦ у Дэтройце;

— Адзначэньне 20-ых угодкаў Згуртаваньня Беларускае Моладзі Амэрыкі й выданьне ілюстраванага альманаху з жыцьця моладзі.

— Перавыданьне забароненай у БССР капітальнае кнігі Міколы Шчакаціхіна „Нарысы зь гісторыі беларускага мастацтва".

Зь юбілейнай прамовай у ангельскай мове выступіла маладая абсальвэнтка палітычных навукаў Ратгэрскага ўнівэрсытэту ў Нью Браньсьвіку Лёля Гутырчык. У кароткай, але арыгінальнай і лягічна пабудаванай прамове яна паказала, як бальшавіцкія акупанты ўкралі незалежнасьць Беларусі, стварыўшы свой эрзац і фікцыю дзяржаўнасьці ў форме БССР пад хвальшывым шыльдам харошых ідэялаў — дэмакратыі, роўнасьці й свабоды.

Прамову пабеларуску прачытаў д-р Расьціслаў Гарошка. Ён цікава падаў важнасьць сакавіковых падзеяў, бязупыннае далейшае змаганьне за незалежнасьць як на Бацькаўшчыне, гэтак і на эміграцыі.

У мастацкай частцы Сходу прыймала ўдзел салістка Эльза Маркоўская пад акампаніямант сп-ні Э. Зубковіч. Разам із сп-чняй Галінай Орса, сп-ня Э. Маркоўская выканала колькі дуэтаў. Важным пунктам праграмы было выступленьне жаночага вакальнага ансамблю з удзелам Алы Орса-Романо (яна-ж і кіраўнічка ансамблю), Гаі Дарашэвіч-Тэдон, Веры Бартуль і Аліны Курыла. Ансамбль выканаў наступныя песьні: „Як сарву я ружы кветку", „Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні", „О Беларусь, мая шыпшына".

Вучні беларускіх школаў у Нью Ёрку й Нью Браньсьвіку Алеся Кіпель, Вера Запруднік і Лявон Войтанка прадэклямавалі вершы Янкі Купалы й сучасных паэтаў. Закончыла праграму ігрой на піяніне Ніна Запруднік.

Віталі Беларусаў зь іхным нацыянальным сьвятам асабіста нашыя старыя прыяцелі спасярод паняволеных бальшавізмам народаў, а пісьмовыя прывітаньні як ад амэрыканскіх палітычных дзейнікаў, гэтак і ад беларускіх арганізацыяў прачытала сяброўка Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі Ліда Рагуля. Другі сябра АБАМ Юрка Азарка прачытаў прысланыя прывітаньні. Сакратар Галоўнай Управы БАЗА д-р Р. Гарошка прачытаў Рэзалюцыю Сходу, якая была прынятая аклямацыямі.

Зачыніў Сход старшыня Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі Тамаш Супрун і, выкарыстоўваючы нагоду, запрасіў усіх адведаць у наступную нядзелю Нью Браньсвік і прыняць удзел у ладжаным тамака сьвяткаваньні Дня Незалежнасьці. Застаецца падзякаваць суродзічам з далейшых мясцовасьцяў Нью Джэрзі й Канэктыкат, што прыбылі на сьвяткаваньне, а таксама Аддзелу БАЗА ў Лёнг Айлэнд, што добра справіўся з прыгатаваньнем нагрудных значкоў і абслугай на залі.

**В. С.**

## У ДЭТРОЙЦЕ

Беларусы Дэтройту адзначылі 53-ія ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў нядзелю 28 сакавіка. Было гэта вялікае падвойнае сьвята. Сакавіковыя ўрачыстасьці ўпяршыню тут адбываліся ў сваёй собскай царкве і ў сваім собскім доме.

Ад даўжэйшага ўжо часу існуе вось: Дэтройт — Таронта. Твораць яе працянутыя й злучаныя поціскам далоняў рукі. Беларусы Дэтройту ўважаюць за свой абавязак памагаць Беларусам Канады, якія з чаргі пачуваюцца да такога-ж абавязку і ў дачыненьні да Беларусаў Дэтройту. Ня дзіва, што й цяпер на сьвята 25 Сакавіка ў Дэтройт з Канады прыехалі чатыры машыны людзей улучна з танцавальнай групай моладзі „Лявоніха".

У сыботу 27 сакавіка пасьля вячэрні ў БАПЦаркве Сьв. Духа спадарства Пляскачы прыймалі ў сябе дома гасьцей з Канады. Прыемным мамэнтам быў высьветлены сп-чняй Марыяй Пляскач фільм із сакавіковае ўрачыстасьці, што адбылася тыдзень раней у Таронце, а ў якой актыўны ўдзел прымалі Беларусы Дэтройту.

У нядзелю 28 сакавіка нараніцы, — а ранічка была сонечная й цёплая, — Уладыка Мікалай у суслужэньні з паддзіяканамі Р. Целяшом і Э. Барановічам ды падслужнікамі М. Кавалём і Я. Сажычам малодшым адслужыў урачыстую сьвятую Літургію й Малебен. Сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп. Ю. Мазуры. Кульмінацыйнымі мамэнтамі былі: прыгожай беларускай мовай чытаны Малебен, шчырая малітва ўдзячнасьці й просьбы лепшае долі для Беларусі, патрыятычная казань Уладыкі Мікалая.

Адразу пасьля Багаслужбы ўсе прысутныя зышліся ў прыбраную пасьвяточнаму залю, дзе чакалі іх сталы з багатым абедам. Пачаў яго малітвай Уладыка Мікалай. Афіцыйную частку адчыніла старшыня мясцовага Аддзелу БАЗА сп-ня Тацьцяна Пляскач. Яна й прачытала добра апрацаваны даклад на тэму дня.

Сп. Юрка Мазура, які далей кіраваў урачыстасьцяй, прывітаў прысутнага старшыню Рады БНР д-ра Вінцэнта Жук-Грышкевіча й папрасіў яго прамовіць. Старшыня Рады БНР горача прывітаў Беларусаў Дэтройту і ўсіх прысутных з 53-мі ўгодкамі Акту 25 Сакавіка й паказаў на тое вялікае значэньне, якое мае ён для нас.

Далей сп. Ю. Мазура вітаў іншых гасьцей: галоўнага каманьдзера Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў падпалкоўніка д-ра Язэпа Сажыча, сп. Міраслава Кумэйшу, які толькі-што вярнуўся зь Ветнаму, ды яшчэ адных фундатараў нованабытага беларускага дому спадарства Косьценяў, якія таго-ж дня ахвяравалі на гэтую мэту 1.000 даляраў. Пісьмовыя прывітаньні прыслалі Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Чыкага й Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады. Ад Парахвіі БАПЦарквы сьв. Кірылы Тураўскага вітаў сп. М. Ганько, ад Згуртаваньня Беларусаў Канады д-р Раіса Жук-Грышкевіч, ад Беларускага Выдавецка-Мастацкага Клюбу „Пагоня" сп. К. Акула. Наапошку ад імя Беларускіх Вэтэранаў і Беларусаў Дэтройту прамаўляў палкоўнік Я. Сажыч.

Малітвай і нацыянальным гімнам закончылася афіцыйная частка праграмы.

Зьніклі сталы й на фоне франтовай з нацыянальнымі эмблемамі сьцяны зьявіўся жыцьцярадасны букет танцавальнай групы „Лявоніха" з Таронта. Сп. Ю. Мазура прадставіў кіраўнічку групы Эву Пашкевіч, іншых удзельнікаў і двух музыкаў. Ударыў акорд адзін, другі, і наш жывы букет у такт рассыпаўся й зьбіраўся ў фігурах „Мікіты". Разагрэтыя цёплым прыняцьцём танцоры ўкладалі ў танец усё сваё ўмельства, энтузіязм і маладую сілу жыцьця. Хтосьці із залі заўважыў: танцавалі добра ў Тароньце, а тут яшчэ лепш! Ня дзіва, што заля й воплескаў не пашкадавала. Малы Язэпка Сажыч паказаў сваё ўменьне матчынай мовы, прадэклямаваўшы беларускі вершык.

Узноў ударылі музыкі й рытм „Лявоніхі" паплыў жыцьцём па жылах і фігурамі танцораў па залі. А калі ў вапошнім акордзе танцоры засьпявалі „А Лявоніху Лявон палюбіў", заля спантанічна падхапіла далейшыя словы песьні. А ў Дэтройце людзі галасі-і-стыя! . .

„Лявоніхай" закончылася мастацкая праграма. На сярэдзіну залі ўзьяжджае стол зь велізэзным тортам і кавай. Гэта сп-ва Кумэйшы вітаюць сына Міраслава, прыбылага з фронту Ветнамскай вайны.

Наканец зборка ў сп-ва Сажычаў. Дбайлівыя гаспадыні — бабуля Мазура й сп-ня Сажыч даглядаюць, каб хаця госьці перад далёкай дарогай у Канаду падмацаваліся. Заладаваліся машыны. Бывайце здаровы! Шчасьлівай дарогі! Да хуткага пабачэньня!

**Р. Ж-Г.**

## У БРАДФАРДЗЕ



Беларускі сьцяг перад ратушай у Брадфардзе

Сёлетнія ўгодкі Акту 25 Сакавіка былі адзначаныя ў Брадфардзе (Ангельшчына) вельмі ўрачыста. У дзень 25 сакавіка ўпяршыню ў Вялікай Брытаніі з дазволу ўладаў быў вывешаны на пляцы перад гарадзкой ратушай беларускі бел-чырвона-белы сьцяг у знак пашаны й сымпатыяў ангельскага грамадзтва для беларускае незалежніцкае ідэі. Праўда, летась у лістападзе ў часе Тыдня Паняволеных Народаў на тым-жа самым пляцы ў Брадфардзе былі вывешаныя сьцягі шасьцёх паняволеных народаў, у тым ліку й беларускі сьцяг. Але ў вадзначэньне вылучна беларускага нацыянальнага сьвята наш сьцяг павяваў над горадам упяршыню.

У сыботу 27 сакавіка ў залі „Лявоніха" ў Беларускім Грамадзкім Доме адбыўся ўрачысты Сход, прысьвечаны нацыянальным угодкам, які адчыніў і прывітаў прысутных старшыня мясцовага Аддзелу ЗБВБ Янка Калбаса.

З выдатных гасьцей на сёлетнім сьвяткаваньні прысутнічалі сябры Брытанскага Парляманту Джон Уілкінсон ад Кансэрватыўнае партыі, што сяньня пры ўладзе, і Эдуард Ляйонс — сябра апазыцыйнае Ляйбарысцкае партыі. Англа-Беларускае Таварыства ў Ангельшчыне рэпрэзэнтаваў на Сходзе ягоны сакратар Гай Пікарда, Галоўную Управу ЗБВБ адмыслова прыбылы зь Лёндану ейны старшыня Янка Міхалюк, Аддзел ЗБВБ ў Лёндане ягоны старшыня Янка Саўковіч. Украінскае Аб'еднаньне ў Ангельшчыне рэпрэзэнтаваў сп. Сьмярэка.

У перапоўненай залі Сходу прысутныя зь вялікай увагай праслухалі вельмі цікавы рэфэрат у ангельскай мове сп. Гая Пікарды, які падаў цікавыя выпіскі з архіваў Міністэрства Замежных Справаў Вялікабрытаніі з часоў Першае сусьветнае вайны, што датычацца дачыненьняў брытанскага ўраду да абвешчанай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Наступным прамоўцам быў дэпутат Парляманту Джон Уілкінсон, які, вітаючы Беларусаў зь іхным нацыянальным сьвятам, сказаў: „Дзякуючы вашай станоўчасьці й пашане да свайго народу, вы маеце поўнае падтрыманьне з майго боку ў вашай карыснай дзейнасьці. Я веру, што неўзабаве прыйдзе жаданы час, калі Вы зможаце вярнуцца ў родную й вольную Беларусь".

Дэпутат Эдуард Ляйонс у сваёй прамове падчыркнуў, што „кажная шматнацыянальная імпэрыя мае абмежаны час свайго існаваньня, на месцы якое паўстаюць да жыцьця дзяржавы народаў, што пакутвалі ў гэтай імпэрыі. Таму прыйдзе час, калі й Беларусь будзе свабоднай і незалежнай дзяржавай".

Старшыня Галоўнае Управы ЗБВБ Янка Міхалюк шчыра падзякаваў сябром Брытанскага Парляманту за іхныя шчырыя словы ў дачыненьні да Беларусаў, адначасна падзякаваў і мясцоваму самаўраду на чале з мэрам Брадфарду за дазвол вывесіць беларускі нацыянальны сьцяг на ратушы ў дзень 25 сакавіка. Асаблівую падзяку выказаў ён Управе Аддзелу ЗБВБ у Брадфардзе й ейнаму старшыні Янку Калбасу, які гэтак удала й з багатай праграмай зарганізаваў урачысты юбілейны Сход.

Пасьля прыгожых прамоваў ды прачытаньня прывітаньняў ад Галоўнай Управы БАЗА зь Нью Ёрку, Англа-Беларускага Таварыства зь Лёндану, Управы Арганізацыі Беларускае Моладзі ў Чыкага, старшыня Янка Калбаса шчыра падзякаваў прамоўцам і ўсім прысутным ды запрасіў іх прыняць удзел у другой частцы праграмы — падняць тост з шампанскім за Вольную Беларусь. Тут прысутныя мелі нагоду прыемна правесьці час у Беларускім Грамадзкім Клюбе „Сакавік", а дэпутаты Парляманту, развітваючыся, выказалі надзею, што іхная сустрэча зь Беларусамі ня будзе апошняй.



**З шампанскім: зьлева направа: Гай Пікарда, сп-ня А. Лемяшонак, ззаду тройці — М. Камароўскі, Джон Уілкінсон, Янка Міхалюк, сп-ня М. Калбаса, сп-чня Д. Лемяшонак, Янка Калбаса, Эдуард Ляйонс і Сьмярэка.**

Назаўтрае, у нядзелю 28 сакавіка, быў зарганізаваны абед-прыняцьцё для гасьцей зь Лёндану й іншых асяродкаў Ангельшчыны. Старшыні ЗБВБ Янка Міхалюк і Янка Саўковіч зь Лёндану ў сваіх прамовах падчыркнулі важны факт, што Брадфард, у якім калісьці жылі й яны, гэта першы горад у Ангельшчыне, што ў дзень беларускага дзяржаўніцкага сьвята дазволіў афіцыйна вывесіць беларускі нацыянальны сьцяг. Яны заклікалі прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў у іншых гарадох Ангельшчыны, каб і яны пастараліся перад уладамі такога-ж дазволу вывешваць нашнацянальны сьцяг у дзень 25 сакавіка кажнага наступнага году.

**Янка Крушына**

## КАНАДА У ДЭТРОЙЦЕ

На сьвяткаваньні 25-га Сакавіка ў Таронце ад Беларусаў у Дэтройце і Беларускіх Вэтэранаў прамаўляў др. Язэп Сажыч. Ён і запрашаў усіх прыехаць у Дэтройт на іхнае сьвяткаваньне 25-га Сакавіка. Асабліва ён прасіў моладзь, каб яна выступіла із сваімі танцамі. Мы, удзельнікі танцавальнай групы „Лявоніха", вельмі ўсьцешыліся з запросінаў і сталі рыхтавацца ў дарогу. Былі цяжкасьці. Трэба было ўпрасіць бацькоў, каб нас пусьцілі, і знайсьці танную транспартацыю. На шчасьце бальшыня бацькоў падтрымалі нас ахвотна, хоць завезьлі і заапекаваліся намі не бацькі, а іншыя добрыя людзі, і за гэта мы ім вельмі ўдзячныя.

У Дэтройце нам было весела, прыемна й цікава. Гэта была нашая першая паездка як арганізаванай групы і першае выступленьне танцавальнага гуртка „Лявоніха" не ў Канадзе. Добра было быць у гасьціне, спаткацца зь іншай беларускай моладзьдзю. Мы ўсе вельмі задаволеныя, што паехалі ў Дэтройт і што маглі прынесьці радасьць Беларусам Дэтройту. А што мы прынесьлі яе, мы ведаем, бо нідзе і ніхто нас так цёпла ня прымаў, як дэтройцы. Ніхто не даваў нам такіх бурных воплескаў, і на заканчэньне не сьпяваў з намі так дружна „Лявоніхі".

А на разьвітаньне бабуля Мазура пачаставала нас яшчэ смачнымі піражкамі.

Маем надзею, што на наступнага 25-га Сакавіка мы будзем гасьціць у нас у Таронце танцавальны гурток моладзі з Дэтройту.

**Эва Пашкевіч**

## У ЧЫКАГА

53-ія ўгодкі БНР! Гэта ня толькі ўгодкі, гістарычная дата. Гэта БНР у жыцьці й змаганьні. Няпраўда, што БНР даўно зьліквідаваная бальшавікамі ды падмененая БССР, як адзінай беларускай дзяржаўнасьцяй. І праўдзіва казаў др. Аўген Вярбіцкі ў сваім галоўным дакладзе на сьвяткаваньні ўгодкаў 25 Сакавіка ў Чыкага, што БНР існуе ня толькі ў сэрцах беларускіх патрыётаў на Бацькаўшчыне й на эміграцыі, але дэ факто вызнаецца й Задзіночанымі Штатамі Амэрыкі ды Канады. То-ж гэты дзень усюды афіцыйна абвяшчаецца ў Амэрыцы, дзе толькі жывуць большыя беларускія групы, Днём Незалежнасьці Беларусі!

Палата Рэпрэзэнтантаў і Сэнат амерыканскага Кангрэсу ў Вашынгтоне спыняюць усякія нутраныя й замежныя дэбаты над вельмі важнымі праблемамі для жыцьця Амэрыкі, а слухаюць малітвы беларускага духавенства за Беларускі Народ і ягонае вызваленьне, прымаюць беларускія дэлегацыі, слухаюць выступленьні сэнатараў і кангрэсмэнаў у справе абароны свабоды Беларускага Народу ды зьдзейсьненьня ягоных славутых пастановаў у Акце 25 Сакавіка.

Тое самое дзеіцца і ў шмат якіх штатах ЗША. Беларускія нацыянальныя сьцягі вывешваюцца на амэрыканскіх, канадыйскіх ды некаторых дзяржаваў Эўропы ўрадавых установах, а мясцовыя й штатавыя ўлады выдаюць адмысловыя праклямацыі з нагоды гэтых угодкаў нашага нацыянальнага змаганьня. Ці-ж гэта ня ёсьць пэрманэнтнае вызнаньне БНР Амэрыкай і іншымі дзяржавамі Вольнага Сьвету?

Беларускае Чыкага адзначала дзень нашага нацыянальнага змаганьня за свабоду, за БНР 28 сакавіка. Сьпярша ад гадзіны 10-ай у беларускіх сьвятынях Хрыста Збаўцы й сьв. Юр'я адбыліся ўрачыстыя Божыя Службы за Беларусь з прынагоднымі казанямі й маленьнямі. Адпраўлялі службы сьвятары а. Тарасэвіч і а. Міранoccупаціі Пасьля Багаслужбаў спачатку адбыўся ўрачысты сход Беларусаў пры царкве Сьв. Юр'я, дзе Беларусы Чыкага, што належаць да Беларускай Нацыянальнай Рады ў Чыкага, разам зь Беларусамі іншых арганізацыяў адзначылі ўгодкі 25 Сакавіка. Былі там патрыятычныя прамовы, выступленьні хору й дэклямацыі патрыятычных вершаў беларускіх паэтаў. Настрой быў узвышаны й шчыры, прысутныя верылі што нашая беларуская справа, справа БНР, не зважаючы ні на што, жыве й мае падтрыманьне ў Вольным Сьвеце.

Пасьля пад вечар адбылася другая праграма сьвяткаваньня ў Беларускім Культурным Цэнтры пры Фулертон вуліцы ў Чыкага. Зьбралася значная грамада Беларусаў з розных арганізацыяў і ўгрупаваньняў. Сход гэты арганізаваў адмысловы Беларускі Сьвяткавальны Камітэт пад кіраўніцтвам сп. А. Бяленіса. Сход быў падзелены на тры асобныя часткі: урачыста-афіцыйную, артыстычную й сяброўскую.

Першую частку распачала сп-ня Надзея Градэ-Куліковіч прапяяньнем амэрыканскага гімну. Тады прадстаўнік Сьвяткавальнага Камітэту В. Пануцэвіч кароткім словам адчыніў Сход. Ён падчыркнуў, што Акт 25 Сакавіка ня ёсьць плодам беларускай нацыянальнай прапаганды або творам розных акупантаў Беларусі. Гэтым Актам была выказаная воля Беларускага Народу жыць собскім незалежным жыцьцём. Прамоўца падчыркнуў і мамэнты рамантызму нашага нацыянальнага змаганьня. Ён казаў: „Мусіць Бог так хацеў, каб нашую беларускую долю сымбалічна зьвязаць з адвечнымі Ягонымі законамі, зь вясной адраджэньня жыцьця пасьля зімовага сну, сьцюжы й сьмерці. Дык ці-ж не павучальна для нас: 25 Сакавіка — Абвешчаньне Дзеве Марыі, што народзіць сьвету Збаўцу — Сьвятло, Праўду й Жыцьцёвую Дарогу — Хрыста! І 25 Сакавіка стаўся днём абвешчаньня Вольнай і Незалежнай Беларусі".

Вельмі павучальную для Беларусаў малітву сказаў а. Уладзімер Тарасэвіч. Ён прасіў Усявышняга, каб нам паслаў Сьв. Духа Праўды, Любові й Справядлівасьці, каб мы ў кажным Беларусе бачылі свайго брата, каб любоўю змаглі ахапіць шырокае кола нашых суседзяў, каб мы стойка трывалі на сваіх сьвятых пазыцыях, каб мы заўсёды стаялі на грунце хрысціянскае любові.

У далейшым малады беларускі вучоны д-р Аўген Вярбіцкі прачытаў кароткі, але зьместоўны даклад на тэму дня, падчыркваючы справядлівасьць і правамоцнасьць нашых нацыянальных імкненьняў. Пасьля гэтага сп-ня Габрыеля Богдан прачытала праклямацыю Бурмістра Чыкага Рычарда Дэйлі пра абвешчаньне ім дня 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі. Гэткую-ж праклямацыю губарнатара штату Іліной Рычарда Агілві прачытала Марыянна Жызьнеўская. Былі прачытаныя прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў: ад Галоўнае Управы БАЗА, Згуртаваньня Беларусаў Канады, ад Беларусаў у Скандынавіі, Аўстраліі, Нямеччыны, Ангельшчыны . . .

Беларускім нацыянальным гімнам пры акампаньяманьце Ірэны Мароз закончылася афіцыйная частка Сходу.

У мастацкай частцы былі выступленьні нашых артыстых ды іхных вучняў. Спачатку ведамая сьпявачка Надзея Градэ-Куліковіч выканала солё песьні „Туга" й „Вышывала я сарочку" пад акампаньямант сп. Ст. Боцека, абедзьве кампазыцыі М. Куліковіча. Вучань кампазытара М. Куліковіча Гэнрык Янчэўскі адыграў на піяніне „Беларускую фантазію" М. Куліковіча. Тады сп-ня Надзея Градэ-Куліковіч прапяяла яшчэ дзьве песьні: „Фіялкі" на словы Натальлі Арсеньневай, муз. Велазіма, і „Пакахай", таксама на словы Н. Арсеньневай, муз. М. Куліковіча. Сп-ня Ванда Махнач прачытала некаторыя вершы Ларысы Геніюш. Гэнрык і Вільям Янчэўскія памастацку прайгралі два творы на клярнэце й піяніне. Наапошку вучаніца камп. М. Куліковіча Ірэна Мароз выканала „Беларускую фантазію" М. Куліковіча, а сп. Ст. Боцек адыграў на скрыпцы твор Капрыё. Сход закончыўся агульным прапяяньнем песьні „Люблю наш край".

Трэйцяй часткай праграмы была супольная вячэра пры ажыўленых гутарках на розныя тэмы і ў вясёлым сяброўскім настроі. Смачную вячэру падрыхтавалі нашыя жанчыны, за што ім шчырая падзяка. Вялікая падзяка належыцца й сп. М. Жызьнеўскаму, які 26 сакавіка ў радыёвай праграме Самбірскага ў рамах беларускай рэдакцыі „Нёман" даў высокаідэйную перадачу пра 25 Сакавіка.

**В. Пануцэвіч**

## У НЬЮ БРАНСЬВІКУ



**Выканальнікі мантажу „Беларусь"**

Сёлетняе сьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адбылося ў Ньюю Брансьвіку, Ньюю Джэрзі, у нядзелю 4 красавіка. Але некаторыя важныя мерапрыёмствы, зьвязаныя зь юбілейнай датай, былі праведзеныя значна раней.

Яшчэ 19 сакавіка дэлегацыя Аддзелу БАЗА ў Ньюю Джэрзі ў складзе старшыні Тамаша Супруна, віцэстаршыні Сяргея Гутырчыка, а. Васіля Кендыша, А. Войтэнкі; прадстаўніцы Жаноцкай Сэкцыі БАЗА А. Супрун; прадстаўнікоў мясцовага Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі А. Стомы-Лог і Ю. Азаркі наведалі ў сталіцы штату Трэнтон губарнатара Ньюю Джэрзі В. Кагіля, які ў ейнай прысутнасьці падпісаў Праклямацыю пра абвешчаньне дня 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі ў сваім штаце.

У самы дзень 25 сакавіка мэр гораду Ньюю Брансьвік Патрыцыя Шыгэн прачытала перад дэлегацыяй ад згаданых беларускіх арганізацыяў Праклямацыю пра абвешчаньне дня 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі ў горадзе Ньюю Брансьвік ды асабіста падняла беларускі бел-чырвона-белы сьцяг на ратушы гораду.

У нядзелю 4 красавіка ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры адбыўся сьвяткавальны ўрачысты Сход мясцовых Беларусаў і прыбылых гасьцей. Сход быў папярэджаны ўрачыстай Божай Службай, якую адправілі а. а. Васіль Кендыш, Карп Стар і Віктар Войтанка ў парахвіяльнай БАПЦаркве Жыровіцкае Божа Маці ў Гайлэнд Парку.

Сход адчыніў і прывітаў прысутных старшыня Аддзелу БАЗА Т. Супрун, пасьля чаго прысутныя праслухалі малітву а. Васіля й амэрыканскі гімн. З глыбокім хваляваньнем быў праслуханы прыгожы й зырка патрыятычны даклад пабеларуску сп. Г. П. зь Ньюю Ёрку й кароткі інфармацыйны даклад паангельску настаўніцы сярэдняй школы ў Фрэнклін Таўншып Ірэны Брэндэр. Абодвы даклады былі прадуманы й калярытна апрацаваныя, добра прачытаныя ды трывалі ўсяго — першы 12, а другі — 6 мінут часу, што застаецца адно вітаць ды пажадаць, каб гэткія-ж даклады практыкаваліся ў будучыні і ў іншых беларускіх асяродзьдзях.



**Сцэна з мантажу „Беларусь"**

Праклямацыі губарната В. Кагіля й бурмістра Патрыцыі Шыген, а таксама прывітаньні ад кангрэсмэнаў ды іншых амэрыканскіх прадстаўнікоў прачытала настаўніца сярэдняй школы ў Сэрвіл Ганна Лук'янчык.

Стрыжнём сьвяткавальнай праграмы быў вялікі патрыятычна-гістарычны мантаж „Беларусь", апрацаваны й падрыхтаваны Васілём Стомам у музычным афармленьні й гукавых эфэктах Т. Супруна. Мантаж, пабудаваны на аснове патрыятычных песьняў і вершаў беларускіх паэтаў, адлюстраваў гістарычны шлях беларускага народу ад эпохі ягонае магутнасьці й славы, цераз змрочныя часы ягонага ўпадку, паміжэньня й няволі, аж да часоў ягонага нацыянальнага адраджэньня й змаганьня за сваю дзяржаўную незалежнасьць. Удала ўплецены ў мантаж нацыянальны гімн „Мы выйдзем шчыльнымі радамі", бадзёра закончаны прароцкімі словамі „У крывавых муках мы народзім жыцьцё Рэспублікі сваёй", прыгадаў непахісную волю народу жыць сваім вольным незалежным жыцьцём.

Мантаж „Беларусь" быў ня толькі ўдала і на ўзроўні апрацаваны, але й беззаганна выкананы сябрамі Аддзелу маладзёжнае арганізацыі й вучнямі беларускае школкі, што ў шмат каго з прысутных у найбольш чулых мамэнтах блішчэлі на вачох сьлёзы. Заслугоўвае на асаблівую ўвагу й пахвалу таксама тое, што беларуская мова маладых і малых выканаўцаў была чыстая, выразная, мілагучная, не папсаваная ангельскім вымаўленьнем. А выканаўцаў было цімала: Ганна Стома-Лог у сымбалічнай ролі Беларусі, Янка Лук'янчык — Князь, Мікола Швэд — Ваяк, Рагнеда Гутырчык, Люда Русак і Лявон Воэтэнка — Дэклямататары, Юрка Азарка, Галіна Кажура, Тамара Стагановіч, Ганна Бойчук, Люда Русак, Міхась Швэд і Альгерд Кажура — нямыя ўдзельнікі мантажу-статыстыя, усе ў зырка калярытных народных вопратках, Алік Харавец і Юлік Дубяга — чырвонаармейцы-канваіры. Быў-бы большы эфэкт, калі-б гэтым апошнім не забыліся прычапіць на вайсковых пілётках бальшавіцкіх чырвоных зорак. Нельга не адзначыць і чыстых ды выразных галасоў, хоць і ня бачаных на сцэне ўдзельнікаў, бо праслуханых з магнітафоннае йстужкі, абодвых наратараў — В. Стомы й а. Васіля.

Абсальвэнтка мясцовага Даглэс Каледжу Леанора Гутырчык сьціпла, але прачула прапяяла пад собскі акампаньямант на гітары народныя песьні „Ручнічок" і „Я іду дарогаю". На заканчэньне найменшыя з выканальнікаў прадэклямава патрыятычныя вершы: Ленка Сільвановіч „Размова зь дзядзькам", Тонік Сільвановіч „Беларуская мова", Міхась Швэд „Беларусь, мая ты кветка", Марыся Бойчук „Я малая Беларуска", Ірка Сільвановіч „Падыміце сьцяг угору" і Лявон Войтанка „За волю". Сьвяткаваньне закончылася агульным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Нельга абмежавацца адно сухой справаздачай, ня выказаўшы некаторых агульных уражаньняў. Сьвяткаваньне было наладжанае не абы як-небудзь адзначыць нацыянальны юбілей, што на кажным беларускім асяродзьдзі ляжыць няўхільным ужо абавязкам, але было яно падрыхтаванае з душой, старанна й прадумана зарганізаванае. Паміж Божаю Службай і ўрачыстым Сходам добрая гадзіна часу была адведзеная на багаты абед, смачна падрыхтаваны жанчынамі, так што ніхто пасьля не сьпяшаўся дамоў і да самага канца заставаўся ў залі.

Кідалася таксама ў вочы вялікая колькасьць прысутных. Асабліва было шмат моладзі, відаць, затым, што й сярод выканальнікаў мастацкае праграмы вылучна была моладзь. Навет і дзеці. А гэта найлепшы спосаб патрыятычнага ўзгадаваньня маладога пакаленьня. Таксама было прыемна бачыць у залі на рэдкасьць значную колькасьць гасьцей зь Ньюю Ёрку, якія, ня ў прыклад ранейшым ньюбрансьвіцкім сьвяткаваньням, гэтым разам выдатна падтрымалі сваіх найбліжэйшых суседзяў. Каб-жа гэта сталася традыцыяй!

І яшчэ адно. Нашыя суродзічы ў Ньюю Джэрзі маюць сярод сябе здольнага, ідэйнага й ахвярнага культурнага працаўніка ў васобе Культурнага Рэфэрэнта Аддзелу БАЗА Васіля Стомы, а таксама добрага, руплівага й шчыра зацікаўленага грамадзкім жыцьцём гаспадара ў васобе цяперцшняга старшыні Аддзелу БАЗА Тамаша Супруна. На ўзьверх усяго, маюць цімала добрых і адданых справе патрыётаў, а найгалаўнейшае — маюць ахвотную да працы й нацыянальна здаровую моладзь. Беларускі Ньюю Брансьвік мае ўсе дадзеныя быць прыкладам і нат узорам для ўсяе нашае эміграцыі ў Амэрыцы.

**Ст. Ст.**

## У ПАРЫЖЫ

Сёлетняе сьвяткаваньне Сакавіковых Угодкаў у Парыжы розьнілася ад папярэдніх тым, што гэтым разам урачыстасьць арганізаваў і ачольваў Хаўрус Беларусаў у Францыі. Раней сакавіковыя сьвяткаваньні ладзіла Аб'еднаньне Беларускіх Работнікаў у Францыі, афільяванае пры Францускім Сындыкаце Хрысьціянскіх Работнікаў. Пасьля таго, калі колькі год таму наступіў разлом у гэтым Сындыкаце, у выніку якога новае кіраўніцтва павярнулася налева й навет пачало супрацоўнічаць із скамунізаваным СЖТ, Беларусы пачалі пакідаць рады сындыкальнага руху.

Гэткія абставіны й змусілі Беларусаў шукаць выхаду із сытуацыі. Таму было пастаноўлена аднавіць дзейнасьць іншай беларускай арганізацыі грамадзка-культурнага характару — Хаўрусу Беларусаў у Францыі. Пад гэтым назовам беларуская арганізацыя шырака ведамая сярод іншых нацыянальнасьцяў, а сярод Французаў перадусім, бо была заснаваная яшчэ ў пачатку 30-ых гадоў нябожчыкам Прэзыдэнтам Рады БНР М. Абрамчыкам і праяўляла вялікую актыўнасьць перад мінулай вайной і ў часе самое вайны сярод беларускіх работнікаў із Заходняе Беларусі ў Францыі. Адноўлены ў 1947 годзе, Хаўрус Беларусаў у Францыі ўдала выкарыстоўваўся ягоным старшынём М. Абрамчыкам для вонкавае рэпрэзэнтацыі. Цяпер-жа, калі Аб'еднаньне Беларускіх Работнікаў страціла з пададзеных вышэй прычынаў сваю актуальнасьць, існаваньне Хаўрусу й ягоная актывізацыя сталіся неабходнасьцяй.

Сьвяткаваньне Сакавіковых Угодкаў адбылося 28 сакавіка. Пачалося яно Божаю Службаю ў капліцы Сьв. Людовіка, адсьпяванай архімандрытам Львом Гарошкам, пасьля чаго ў памешканьні Хаўрусу пры сьціплым пачастунку адбылася афіцыйная частка сьвяткаваньня.

Старшыня Хаўрусу Міхась Наўмовіч сказаў адпаведную прамову, у якой падчыркнуў вялікую ролю нашай нацыянальнай дзейнасьці на чужыне, што выклікае вялікі страх у нашага акупанта й ягоных калябарантаў на бацькаўшчыне. „Мы граем тут ролю апазыцыі, для якой таталітарны бальшавіцкі рэжым не пакідае месца на нашай роднай зямлі", — зазначыў прамоўца. На Сходзе пастаноўлена было выслаць прывітаньне новаму старшыні Рады БНР (зьмяшчаецца ніжэй).

На заканчэньне была зацьверджаная, дагэтуль часовая, Управа Хаўрусу ў наступным складзе: Міхась Наўмовіч — старшыня, архімандрыт Леў Гарошка — сакратар, Лявон Шыманец — скарбнік. У Наглядную Раду зацьверджаныя Уладзімер Шыманец, Віктар Жаўняровіч і Васіль Дубоўскі.

Гэтак, спалучыўшы ўрачыстае з практычным, Беларусы Парыжу адзначылі свае нацыянальныя ўгодкі.

## У БЕЛАРУСКІМ КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

● У сыботу 20 лютага прадстаўнікі кліўлендзкіх Беларусаў Янка Раковіч, Уладзімер Дунец і Юрка Гасьцееў ушанавалі сваёй прысутнасьцяй Дзень Незалежнасьці Славаччыны ў Кліўленьдзе. І так ужо плённае супрацоўніцтва паміж Беларусамі й Славакамі ў Кліўленьдзе яшчэ больш зацесьнілася.

● Сыбота 27 лютага застанецца ў памяці кліўлендзкіх Беларусаў, што былі ўдзельнікамі ўрачыстасьці Запустаў перад Вялікім Постам. Зладжаная з гэтае нагоды ў парахвіяльнай залі вечарына прайшла надзвычайна ўдала. Была яна пераплятаная вершамі Янкі Купалы й Якуба Коласа. Даход зь вечару быў перададзены на ўладжаньне мясцовага адпачынковага асяродку Полацак.

● Сакратар Асьветы ЗША Элёт Рычардсон нядаўна наведаў Кліўленд, каб выслухаць школьныя патрэбы розных нацыянальнасьцяў. Ёсьць надзея, што дадатковыя школы ў нацыянальных мовах атрымаюць урадавую дапамогу. На нарадзе, адбытай із Сакратаром Асьветы ЗША, ад Беларусаў быў прысутны старшыня Бацькоўскага Камітэту Беларускай Сыботняй Школы Янка Раковіч.

**Ю. Г.**

## У ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

У знак ушанаваньня беларускага нацыянальнага сьвята мэр гораду Лёс Анджэлесу Сэм Ёрты выдаў, як і летась, адмысловую Праклямацыю, у якой дзень 25 Сакавіка абвесьціў Днём Беларусі ды заклікаў усіх жыхароў гораду й людзей белерускага паходжаньня адпаведна адзначыць гэты дзень ды ймкнуцца, каб у Беларусі запанавалі ўзноў свабода й незалежнасьць.

Вечарам 25 сакавіка на 11-ым тэлевізійным канале ў Лёс Анджэлесе ведамы камэнтатар Джордж Патнам перадаў інфармацыю пра Дзень Беларусі, паказваючы здымкі Праклямацыі й мэра Ёрты на ейным фоне ды даючы агульную інфармацыю пра Беларусь. Джордж Патнам — вялікі працівнік камунізму й шчыры прыхільнік паняволеных народаў.

У нядзелю 28 сакавіка ў залі Украінскай Каталіцкай Царквы ў Галівудзе адбыўся ўрачысты Сход, які адчыніў і правёў сп. Ч. Найдзюк. Пасьля прапяяньня амэрыканскага гімну, Ядзя Найдзюк прачытала Праклямацыю мэра гораду Лёс Анджэлесу Сэма Ёрты, прывітаньне ад Губарнатара Каліфорніі Рональда Рэгена і ад Цэнтральнага Рэспубліканскага Камітэту Лёс Анджэлескай акругі, падпісанае ягоным старшынём Майклам Вэн Горнам.

Беларускія прывітаньні прачытаў сп. Ч. Найдзюк ад наступных арганізацыяў: Галоўнай Управы БАЗА й ягоных Аддзелаў у Нью Ёрку, Нью Джэрзі й Лёнг Айлэнд, Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў Іліной, ад Прадстаўніцтва БККА ў штаце Калярадо, сп. Т. Шыбута і ад Царкоўнай Рады й парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе.

Даўжэйшае асабістае прывітаньне сказаў паангельску й паўкраінску сп. Мікола Мэдвід, ганаровы госьць ад Украінцаў, ведамы, як шчыры прыяцель Беларусаў. Сп. Мікола Мэдвід ведамы, як былы сакратар арганізацыі Амэрыканцы за Свабоду Паняволеных Народаў, старшыня сьвяткаваньня Тыдня Паняволеных Народаў, старшыня Украінскага Рэспубліканскага Клюбу ў Каліфорніі й заступнік старшыні штатавага рэспубліканскага сакратара.

Рэфэрат на тэму ўгодкаў прачытаў сп. Аляксей Вініцкі. Сп-ня Вера Вуіч прыгожа прадэклямавала ўрывак з „Новай Зямлі" Якуба Коласа. Ядзя Найдзюк сказала верш Ларысы Геніюш. Верш Пётры Ерміна „Абавязак вучня" сказала Карнэля Найдзюк. Верш Янкі Купалы „Цару неба і зямлі" ў мастацкай дэклямацыі Веры Вуіч узмоцніў патрыятычны настрой сьвяткаваньня. Дзеля лягчэйшага настрою Пётр Ермін прачытаў свае творы на бытавыя тэмы на чужыне, захварбаваныя адценьнем гумару. Мастацкая частка праграмы была ўдала закончаная „Лявоніхай" у выкананьні школьнай моладзі ў калярытных нацыянальных вопратках пад кіраўніцтвам сп-ні Каці Вініцкай. Нюся Стус прайграла на акардыёне „Люблю наш край" і колькі іншых беларускіх мэлёдыяў. Сход закончыўся нацыянальным гімнам „Мы выйдзем шчыльнымі радамі'".

На сьціплым прыняцьці, як і летась, сталы былі ўпрыгожаныя жывымі кветкамі з агароду сп-ва Ермінаў. Арганізацыі БАЗА й БККА складаюць шчырую падзяку ўсім удзельнікам за іхную помач у наладжаньні й правядзеньні сьвяткаваньня.

**Н.**

## У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Сьвяткаваньне 53-іх угодкаў Акту 25 Сакавіка сёлета адбылося ў Кліўленьдзе ў нядзелю 28 сакавіка й пачалося малебнам за Беларускі народ, які адправіў Уладыка Андрэй у парахвіяльнай БАПЦаркве Жыровіцкае Божае Маці ды сказаў глыбока патрыятычную казань.

Папаўдні ў царкоўна-грамадзкай залі адбыўся ўрачысты юбілейны Сход, які вёў сп. Ю. Гасьцееў. З галоўным дакладам на тэму ўгодкаў выступіў у беларускай мове інж. Янка Бруцкі. У дакладзе былі насьветленыя падзеі, што прывялі да абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Ён прадставіў цяперашняе панявольнае палажэньне Беларусі ды нарысаваў нашыя цяперашнія нацыянальныя заданьні, як палітычнае эміграцыі ў Вольным Сьвеце: любоў, веданьне й культываваньне свае роднае мовы, веданьне свае гісторыі й нацыянальнае культуры й народнае традыцыі ды культываваньне іх у цяперашнім жыцьці, інтэнсыўная арганізацыйная дзейнасьць як у сваіх, гэтак і амэрыканскіх палітычных арганізацыях, ды старацца быць добра паінфармаванымі пра палажэньне на Бацькаўшчыне. Нашая моладзь павінна ня толькі ведаць сваю мову й культуру, але здабываць найвышэйшыя навуковыя ступені, каб уліцца ня ў масы Амэрыкі, а ў кіруючую эліту гэтага краю й гэткім спосабам здабываць свае нацыянальныя пазыцыі.

Рэфэрэнт вонкавых дачыненьняў Управы мясцовага Аддзелу БАЗА Янка Раковіч прадставіў іншанацыянальных гасьцей: Харватаў, Славакаў, Чэхаў, Летувісаў, якія выступалі з гарачымі прывітальнымі прамовамі.

Мастацкая частка праграмы складалася з выступленьняў Жаноцкага Ансамблю й Мяшанага Хору пад кіраўніцтвам сп. Кастуся Кіслага, якія выканалі па некалькі беларускіх песьняў. Зь некалькімі песьнямі выступіла ведамая салістка Іра Каляда пры акампаньяманьце сп. М. Стрэчаня.

Было прачытана колькі прывітаньняў, спасярод якіх асабліва вырозьнівалася глыбокай сымпатыяй да Беларускага народу й цьвёрдай верай у зьдзейсьненьне ягоных нацыянальных ідэялаў прывітаньне Сэнатара ЗША ад штату Огаё Даст. Вільяма Б. Саксбі.

Сход закончыўся агульным прапяяньнем беларускага нацыянальнага гімну, пасьля чаго ўрачыстасьць прадаўжалася пры бяседным стале зь іншанацыянальнымі гасьцьмі.

**Я. Бруцкі**

## ПРЫВІТАНЬНЕ

**Яго Міласьці Старшыні Рады Беларускае Народ. Рэспублікі Праф. Вінцэнту Жук-Грышкевічу ў Канадзе.**

З нагоды 53-іх угодкаў абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, мы Беларусы, згуртаваныя ў найстарэйшай нацыянальнай арганізацыі ў Францыі — Хаўрусе Беларусаў у Францыі, маем гонар выказаць Вам нашую верную адданасьць ідэям змаганьня за нацыянальную й дзяржаўную незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны. Таксама маем гонар пажадаць Вам здароўя й дасягненьняў у Вашай высока дастойнай акцыі найвышэйшага кіраўніка беларускага вызвольнага руху на эміграцыі.

З высокай пашанай да Вас, Спадар Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

**За Управу Хаўрусу**
**М. Наўмовіч — Старшыня,**
**а. Л. Гарошка — Сакратар.**
**Парыж, 28 сакавіка 1971.**

## Падзяка

Дарагія Суродзічы! Усім нашым канадыйскім парахвіянам і прыхільнікам, што прынялі нашых сьвятароў із Сьвятою Вадою ды зложылі ахвяры на нашую Сьв. Царкву, шчыра дзякуем. У выніку Вашае ахвярнасьці мы зыбралі сёлета на Царкву каля 900 даляраў.

Усім тым, хто спрычыніўся да таго, каб нашая машына служыла нам, шчыра дзякуем: тым, што, зложылі ахвяру ў часе абеду 17 траўня летась у Гайлэнд Парку (Нью Брансьвіку), усяго разам — 260 даляраў; Парахвіяльнай Радзе з Гайлэнд Парку за 115 дал.; Парахвіяльнай Радзе ў Дэтройце за 118 дал.; Парахвіяльнай Радзе ў Нью Ёрку за 100 дал.; разам — 593 даляры.

Таксама шчыра дзякуем сп. Юрку Харэвічу з Ашавы, які выканаў задарма ўсю працу мэханіка, зьвязаную з устанаўленьнем новага матору ды іншых частак у машыне, з латаньнем дзірак і маляваньнем яе, адным словам, што прывёў старую 1963 году машыну да выгляду новае.

**Япіскап Мікалай**

## ФІЛЯМЭНЕ ВОЙТАНКА — 90 ГОД



Беларускае грамадзтва Нью Джэрзі разам з прыбылымі ў значнай колькасьці гасьцьмі зь Нью Ёрку ў нядзелю 14 сакавіка ўрачыста адзначыла 90-ыя ўгодкі Сп-ні Філямэны Войтанка, жонкі сьв. пам. мітр. прат. Сьцяпана й маці сьвятара д-ра Віктара Войтанкаў.

Юбілярка радзілася на хутары Мачульна ў Наваградчыне. Ейны бацька выводзіўся із шляхты Ковеншчыны, а маці — з Далматаўшчыны ў Наваградчыне. Маладыя гады правяла яна ў Сталовічах ля Баранавіч, дзе бацька працаваў вэтэрынарам. У Першую сусьветную вайну кіравала прытулкам ля Барысава для дзяцей ваенных уцекачоў з Горадзеншчыны, а па вайне — аддзелам Амэрыканскае Помачы для дзяцей у пляне місіі Гувэра ў Запольлі на Наваградчыне.

Філямэна Войтанка ўвесь час прыймала актыўны ўдзел у розных грамадзкіх пачынаньнях і арганізацыях. І сяньня, дасягнуўшы 90 год жыцьця, зьяўляецца сябрам БАЗА й актыўнай парахвіянкай БАПЦ, а ў свой час была энтузіястычнай удзельніцай аднаўленьня БАПЦ у Канстанцы, пазьней аднэй із засновальніцаў і будаўнічкай парахвіі ў Нью Брансьвіку.

Сьвяткаваньне юбілею пачалося ў мясцовай парахвіяльнай царкве Жыровіцкае Божае Маці. Сьвяточны малебен на інтэнцыю Юбіляркі быў адпраўлены ейным сынам упяршыню ў гісторыі царквы пабеларуску.

Пасьля Божае Службы пры шматлікім удзеле грамадзтва і ў перапоўненай залі пад царквой адбылася юбілейная бяседа-абед, у часе якой, адна за аднэй, сыпаліся шчырыя прамовы. Ад імя рэпрэзэнтаваных арганізацыяў і ад сябе асабіста прамаўлялі сп. сп.: Філярэт Родзька, Васіль Русак, Ніна Стома, д-р Станіслаў Станкевіч, Уладзімер Русак, Барыс Данілюк, Пётр Кажура, Натальля Орса, Тамаш Супрун, Сяргей Гутырчык, А. Кудасаў, Уладзімер Курыла, д-р Янка Станкевіч, а. Карп Стар.

Спасярод пісьмовых прывітаньняў было й прывітаньне ад унука кап. Р. Войтанкі зь Ветнаму. Старшыня Сяструцтва парахвіі сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры Люда Махнюк, разам зь пісьмовым прывітаньнем, прыслала ў падарку вялікі пірог-каравай.

У прамовах зырка падчырквалася вялікая, хоць незаўсёды прыкметная навонкі, роля Філямэны Войтанка ў сям'і як жонкі й маці. У тым, што ейны муж і сын сталіся галоўнымі ініцыятарамі аднаўленьня Аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы, а ейны сын стаўся цяпер энтузіястым поўнага ўвадзеньня беларускае мовы ў царкоўныя службы й малітвы, бясспрэчны ўплыў высакароднае маральнае атмасфэры й гарачага беларускага патрыятызмуму, якія ў сям'і сваёй верна й наважана культывавала Юбілярка.

Адзін з прамоўцаў зазначыў, што для чалавека, які ў добрым здароўі й поўнай жыцьцёвай энэргіі дасягнуў 90 год, пяяць „Сто год!" станоўча за мала, і пажадаў ёй шмат год далейшага жыцьця!

## „ЁСЬЦЬ У ГОРАДУ ДУША"

Трэба вельмі любіць свой горад, каб сказаць аб ім гэтак, як гараднянка Вольга Іпатава:

Ёсьць у гораду душа. Ды мы
Забываем гэта ў дзённым гудзе.
Ноччу задуменныя дамы
Пачынаюць гаварыць, як людзі.

І паспрабуем цяпер сьледам за паэткай, але абапіраючыся пры тым на летапісцаў і архэалёгаў, на даты й падзеі, падслухаць гутарку сівых гмахаў роднае беларускае Горадні.

Некаторыя навукоўцы прыпушчаюць, што гэта аб Горадні на Нёмане, якая звалася тады — Гарадзен, „Слова аб палку Ігаравым" з болем адзначыла: „Зажурыліся галасы, панікла весялосьць, трубы трубяць гарадзенскія", але Лаўрэнцьяўскі летапіс згадвае аб ёй яшчэ пад 1128 годам, з нагоды ўдзелу тутэйшага князя Ўсевалада ў каліцыйным паходзе на грозны Полацак. У канцы таго-ж 12 стагодзьдзя летапісец смуткуе: „Сёлета Горадня пагарэла ўся і царква каменная ад блішчэньня маланкаў і шпурляньня пяруноў". Прымежны горад сваё летапіснае хрышчэньне вайной і навальніцай пранясе праз усю гісторыю. У 1241 годзе, паводля „Хронікі Быхаўца", на яго напалі Татара-манголы хана Койдана і ягоныя жыхары былі імі перабітыя. З 1283-га па 1329 год Горадню аж 12 разоў аблягалі крыжакі, і дагэтуль у Нёмане знаходзяць іхнія мячы, на адным зь якіх захаваўся напіс „Пі кроў". Пазьней грымелі гут гарматы і Івана Трэйцяга і Карла Дванаццатага. Аднак горад заўсёды адраджаўся з папялішчаў і не загінуў.

Гістарычным цэнтрам Горадні зьяўляюцца Стары й Новы замкі, што знаходзяцца на высокім строміскім беразе Нёману ля ўтоку ў яго рэчкі Гараднічанкі, а таксама часткова ацалелая Калоская царква, або Каложа. Стары замак, зьнішчаны Койданам і адноўлены Вітаўтам, перабудаваў потым Сьцяпан Баторы. Да нашага часу захаваліся фрагмэнты ягоных муроў і вежаў, аб ранейшым велічным выглядзе якіх дае ўяўленьне гравюра нюрэнбэрскага мастака Мацьвея Цюндта ад 1568 году. У непазнавальна зьмененым выглядзе дайшоў да сучаснасьці прыгожы палац Сьцяпана Баторага, створаны Італійцам Скотта з Пармы. Між іншым, калі гэты палац ёсьць сьведкам росквіту Рэчы Паспалітае, дык пабудаваны за часы караля Аўгуста Саксонскага дрэздэнскім архітэктарам Пёпельманам палац Новага замку, ейнага заняпаду — у ім адбыўся ў 1793 годзе „Нямы Сойм".

Дасьледуючы за розныя часы таямніцы старадаўнае Горадні, археолёгі І. Ёдкоўскі, З. Дурчэўскі і Н. Варонін адкапалі ў Старым замку руіны Ніжняе або Княжацкае царквы, сьцены якое захаваліся ўвышкі на тры з паловай мэтры, а ў ейным падмурку яны выявілі ахвярны паганскі камень Дрыгвічоў. Аднак і рэшткі гэтае сьвятыні даводзяць своеасаблівасьць гарадзенскае архітэктуры 12 стагодзьдзя, узроўню якое, паводля сьцьверджаньня Вароніна, расейская архітэктура дасягнула толькі ў 16-17 стагодзьдзях. Ужо пасьля гібелі Ніжняе царквы была пабудаваная Калоская, што таксама дагэтуль сьветчыць сабой аб вялікай культуры старое Горадні. Тое-ж пацьвярджаюць, апрача знойдзеных тут манэт рымскіх, нарманскіх і арабскіх, зграбныя юбілерныя вырабы і кастарэзныя шахматныя фігуры.

Багатая Горадня й на архітэктурныя помнікі сярэднявечча. Ня ў стане камяні гаварыць, але таленавітыя дойліды надаюць ім тую цудоўную адухоўленасьць, аб якой Гёте сказаў: „Архітэктура — застыглая музыка". І тут перадусім трэба назваць Бэрнадынскі касьцёл. Распачаты пабудовай у 1595 годзе, ён з прычыны працяглага будаўніцтва, адлюстраваў у сабе тры стылі — у ягоных кантрафорсах адбілася готыка, а ў галоўным фасадзе барока з дамешкай рэнэсансу. Дапамаглі яго скончыць рыцары, якія, зьвярнуўшыся пасьля перамогі пад Смаленскам, ахвяравалі на ягоную дабудову па талеру ад конскага капыта, а таму іхнія радавыя гэрбы зьмешчаныя на сьцяне галоўнага нэфа. На думку Ю. Ягорава, выказаную ім у ягонай працы „Горадабудаўніцтва Беларусі", гэты касьцёл: „адзін з найлепшых у мастацкім сэньсе культавых каталіцкіх будынкаў на Беларусі". Вялікае ўражаньне пакідае таксама Фарны езуіцкі барокавы касьцёл. Ён распачаты пабудовай у 1585 годзе за кошт Сьцяпана Баторага, што хацеў быць у ім пахаваным. Асабліва ўзрушае ягоны велічны інтэр'ер з прыгожым помнікам падскарбяму Вялікага Княства Літоўскага Антону Тызэнгаўзу. У гэтым касьцёле славіўся абраз Богамаці, так званае „Студэнцкае", бо ён асабліва ўшаноўваўся студэнтамі тутэйшых калегіюму, мэдычнае акадэміі і музычнае школы, а на некаторых старадаўных абразох можна пабачыць тут беларускую нацыянальную вопратку. Заслугоўвае таксама ўвагі Брыгіцкі касьцёл, пабудаваны ў 1643 годзе ў барокавым стылю, і ягоная прыгабная званіца ў клясычным.

Аднак найбольш паказальны для лёсу архітэктурных помнікаў на Беларусі Гарнізонны касьцёл, пабудаваны у 1551 годзе і вядомы яшчэ пад назвай фары Вітаўта. Спачатку ён меў формы крыжацкае готыкі, потым каралева Бона дадала яму элемэнты італьянскага рэнэсансу. У 1892 годзе япархіяльныя русіфікатары няпазнавальна перабудавалі яго пад катэдральны сабор у маскоўскім стылі з цыбуляпадобнымі макаўкамі, а пазьней яму быў зьвернуты выгляд ранейшае фары Вітаўта.

Апрача рэлігійных архітэктурных помнікаў, у Горадні ёсьць шмат помнікаў жылое архітэктуры, як палацы Тызэнгаўза і Валіцкага, а таксама ансамбль так званае „Гарадніцы" ў батанічным садзе. Паасобку трэба адзначыць дом Элізы Арэшкавай і помнік ёй, што знаходзяцца на вуліцы ейнага ймя.

Як-жа ставяцца цяпер у Горадні да тых унікальных помнікаў, што зьяўляюцца аздобай гораду? У. Чантурыя ў „Літаратура і мастацтва" яшчэ ад 11 студзеня 1966 году абураецца: „Нядаўна ў Горадні быў узарваны Гарнізонны касьцёл, які належаў да ліку самых старажытных будынкаў гораду. У імя чаго быў зьнішчаны гістарычны помнік? Таксама званіцу Брыгіцкага касьцёла( выдатны арыентыр архітэктурнага ансамблю, разбурылі і такі-ж лёс напаткаў многія будынкі „Гарадніцы". Далей Алег Белаўсаў у № 11 „Нёмана" за 1969 год піша: „На вуліцы Арэшкавай у Горадні калісьці былі так званыя „дамы работнікаў", на кажным зь якіх быў напіс „Помнік архітэктуры". Ні напісаў ні самых помнікаў ужо няма ў паміну: сьцёртыя з твару зямлі". Нарэшце Віктар Говар у артыкуле „Гарады аб'ядноўваюць", зьмешчаным залетась у „Маладосьці", захапляючыся сьпярша архітэктурай Горадні, піша: „Гэта — цэльныя ансамблі. Гарманічна і лягічна завершаныя", а таму далей ён зусім слушна зьдзіўляецца, калі „У адной гарадзенскай установе мяне так і запыталі: „А вам не здаецца, што Фарны касьцёл цісьне на Савецкую плошчу?"

Старадаўную беларускую Горадню пакрысе пазбаўляюць тае ейнае душы, аб якой прыгадала ў сваім прачулым творы Вольга Іпатава. І ці наўрад дойдзе да сьвядомых разбуральнікаў тутэйшае нацыянальнае апрычонасьці бачаньне гэтае выдатнае паэткі:

Поўначчу няўлоўныя, як сны
Ажываюць доўгія стагодзьдзі.
Гораду далёкія сыны
На Каложу ценямі ўзыходзяць.

**Юрка Віцьбіч**

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Нацыянальны склад жыхарства Беларуска ССР,** паводле паведамленьня газэты „Зьвязда" (17. IV. 71), у часе перапісу 15 студзеня 1970 году быў гэткі: **Беларусы — 7 мілёнаў 290 тыс.** (81,0%), **Расейцы — 938 тыс.** (10,4%), **Палякі — 383 тыс.** (4,3%), **Украінцы — 191 тыс.** (2,1%), **Жыды — 148 тыс.** (1,6%), **іншыя нацыянальнасьці — 52 тыс.** (0,6%).

У часе перапісу 1959 году ў БССР было: Беларусаў 6 мілёнаў 532 тыс. (81,1%), Расейцаў 660 тыс. (8,2%), Палякоў 539 тыс. (6,7%), Украінцаў 133 тыс. (1,7%), Жыдоў 150 тыс. (1,9%), іншых нацыянальнасьцяў 42 тыс. (0,6%).

Паводле перапісу 1970 году **ўсіх Беларусаў у Савецкім Саюзе 9 мілёнаў 52 тысячы** (у1959 г. іх было 7 мілёнаў 913 тыс.). У 1959 годзе, паводле савецкага перапісу, 84,2% Беларусаў уважалі беларускую мову за сваю родную мову, у 1970 г. гэты працэнт зьнізіўся да 80,6 (у выніку напорнае русыфікацыі). Перапіс 1970 году меў дадатковае пытаньне: „Якой іншай мовай народаў СССР валодаеце свабодна?" Адказ на гэтае пытаньне, паводле паведамленьня савецкае Статыстычнае Ўправы, гэткі: расейскай мовай, як другой мовай, з усіх Беларусаў у СССР валодаюць 49,0%, а іншымі мовамі — 7,3%.

**Сп. Пол. Нэдвэл, Амэрыканец украінскага паходжаньня й вялікі прыхільнік нашае газэты,** выслаў 11 сакавіка сёлета мэмарыял Генэральнаму Сакратару Задзіночаных Нацыяў У-Тану з просьбай разгледзець пытаньне „фанатычнае русыфікацыі" й палітыкі народагубства на Беларусі. У сваім мэмарыяле сп. Нэдвэл піша, што канчальная мэта савецкае палітыкі ў БССР — „поўнае зьнішчэньне мовы й культуры беларускага народу". На доказ гэтага ён падаў статыстыку: у БССР пабеларуску выходзіць цяпер адно 20% кніжных выданьняў. Таптаньне культурных і нацыянальных правоў беларускага народу, заявіў сп. Нэдвэл у сваім мэмарыяле, пярэчыць прынцыпам АЗН.

**У сёлетнім вялікодным нумары „Голасу Царквы',** выдадзенага ў Нью Ёрку Епархіяльнай Управай БАПЦ, апрача „Вялікоднага Архіпастырскага Пасланьня" і беларускае рэлігійна-грамадзкае хронікі, зьмешчаны ілюстраваны матар'ял пра Алеся Гаруна з фатаграфіяй У часапісе надрукаваны артыкул пра Алеся Гаруна з фатаграфіяй паэты, у творчасьці якога моцныя рэлігійныя элемэнты. Цікавы матар'ял у часапісе пра стан праваслаўных царкваў у сьвеце ды рух да аўтакефаліі, інакш кажучы да незалежнага рэлігійна-арганізацыйнага існаваньня кожнае нацыянальнае праваслаўнае царквы.

**У Канадзе наступова пашыраецца, галоўна пры ВНУ, краю, абсяг вывучэньня культураў і гісторыі славянскіх народаў, у тым ліку й народу беларускага.** З гэтай мэтай пры Кальгарскім унівэрсытэце ў Альбэрце створаны адмысловы Цэнтар Канадзкага Этнічнага Вывучэньня. У праграму Цэнтру ўваходзіць таксама вывучэньне дзейнасьці беларускае этнічнае групы Канады.

Адным з паважных славянаведных цэнтраў зьяўляецца Канадзкая Асацыяцыя Славістаў у сталіцы краю Атаве. Асацыяцыя выдае свой квартальны часапіс „Канадзкія Славянскія Запісы" („Канэдыен Славонік Пэйпэрс"). У апошнім нумары гэтага квартальніка за леташні год (т. XII, нр. 4) зьмешчаны артыкул вкладчыка Квінсаўскага ўнівэрсытэту гораду Кінгстану **др. Янкі Садоўскага.** Артыкул ягоны загалоўлены „Беларуская культура ў 16-м стагодзьдзі". У артыкуле разглядаюцца пытаньні дзейнасьці Францішка Скарыны, Сымона Будная, Васіля Цяпінскага, ды зьвязаныя з вывучэньнем 16-га стагодзьдзя гістарыяграфічныя праблемы. Аўтар артыкулу разглядае таксама пытаньне вывучэньня 16-га стагодзьдзя ў беларускай савецкай навуцы, называе працы сучасных беларускіх савецкіх дасьледнікаў, што займаюцца гэтым пытаньнем.

**У выдавецтве беларускага рэлігійнага часапісу „Сяўбіт" выйшла кніга,** што ўшаноўвае 500-я ўгодкі ад сьмерці вялікага мысьліцеля хрысьціянскага сьвету Тамаша Кэмпіскага. Кніжка завецца „Сьледам за Хрыстусам". Пераклад яе з лацінскае мовы яшчэ ў 1924 годзе др. Станіслаў Грынкевіч. Пераклад гэтае працы друкаваўся ў канцы дваццатых гадоў у Вільні у часапісе „Хрысьціянская думка", а ў 1934 годзе выйшаў асобнаю кніжкай.

Тамаш Кэмпійскі — мысьліцель нямецкага паходжаньня, што, стаўшыся манахам на пачатку пятнаццатага стагодзьдзя, жыў у Нідэрляндах. Ягоны трактат пра хрысьціянскую мараль і этыку „Дэ імітацыёнэ Крысты" (Насьлядоўваньне Хрыста або Сьледам за Хрыстом) ад 1530 году вытрымаў ужо чатырыста выданьняў у самых розных мовах сьвету, а сёлета другім кніжным выданьнем выйшаў у Амэрыцы пабеларуску. Надрукаваў яго выдавец-рэдактар часапісу „Сяўбіт" **а. Франьціш Чарняўскі.**

**Кнігу Віталя Вольскага „Палесьсе" выпусьціла выдавецтва „Беларусь".** У ёй зьмешчаны цыкль краязнаўчых нарысаў пра Палесьсе, яго прыроду і геаграфічныя асаблівасьці, людзей і гарады.

**Беларускае Грамадзка - Культурнае Таварыства ў Польшчы адзначыла сёлета 15-годзьдзе свае дзейнасьці.** У сувязі з гэтым выдаваная ў Беластоку газэта „Ніва" асобным дадаткам надрукавала агляд-падсумаваньне 15-цігадовае працы Таварыства, падала некаторыя статыстычныя дадзеныя. Вось як выглядае беларускае арганізацыйнае жыцьцё ў Польшчы:

БГКТ налічвае цяпер, падаючы ў закругленых ліках, 6,600 сяброў, зь іх больш за палавіну — сяляне, 1200 работнікаў, 1800 інтэлігенцыі, у тым ліку 350 настаўнікаў і больш за сто студэнтаў. Таварыства, якое налічвае 205 гурткоў, праводзіць сваю дзейнасьць галоўна ў шасьцёх паветах Беласточчыны: Беластоцкім, Бельскім, Гайнаўскім, Сямяціцкім, Сакольскім і Дуброўскім, а таксама ў гарадох Беластоку, Варшаве, Любліне й Гданьску. Апошнімі гадамі значна вырас лік інтэлігенцыі ў радох БГКТ. Цяпер інтэлігенцыя складае каля 30 працэнтаў. Асабліва ахвотна запісваецца ў Таварыства моладзь. У Таварыстве цяпер больш за 68 працэнтаў чалавек, якім менш за 30 год.

У 1970 годзе БГКТ мела 123 мастацкія калектывы самадзейнасьці й 161 культурны цэнтр.

Літаратурны й навуковы гурткі БГКТ выдалі 30 кніжак беларускіх календароў, літаратурных і навуковых зборнікаў агульным тыражом 120 тысячаў экзэмпляраў.

Вялікую дапамогу БГКТ звярачае на справы беларускае асьветы. Зь ініцыятывы Таварыства польскія ўлады стварылі катэдру беларускае філялёгіі на Варшаўскім унівэрсытэце й аддзел беларускае філялёгіі ў Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. Цяпер беларуская мова вывучаецца ў 163 пачатковых школах Беласточчыны і ў трох ліцэях: У Бельску, Гайнаўцы й Міхалове. Беларускую мову вывучаюць звыш 10 тысяч школьнікаў.

Адным зь вялікіх дасягненьняў БГКТ было заснаваньне ў 1966 годзе Этнаграфічнага музэю ў Белавежы, што налічвае цяпер больш за чатыры тысячы экспанатаў. Музэй здабывае паступова славу. У 1970 годзе яго наведала каля 15 тысячаў чалавек, у тым ліку 2 тысячы замежных турыстаў.

Орган БГКТ тыднёвая газэта „Ніва" выходзіць сямітысячным тыражом і карыстаецца вялікай папулярнасьцяй. Газэта мае сваіх чытачоў па ўсіх ваяводзтвах Польшчы ды рассылаецца ў 13 замежных краёў, у тым ліку ў Савецкую Беларусь. У „Ніве" за 28 лютага сёлета было, прыкладам, паведамленьне, што ў Ваверскім сельсавеце Лідзкага раёну „Ніву" выпісваюць 48 падпісчыкаў і знаходзяць яе вельмі цікавай.

### „ЖАНЧЫНЫ Ў САВЕЦКАЙ НЯВОЛІ", —

тэма Сымпозіюму ведамай ньюёркаўскай міжнацыянальнай арганізацыі „Амэрыканцы за Вызваленьне Паняволеных Народаў", зладжанага ў Комадор Гатэлі на Мангатэне 20 сакавіка ў супрацьвагу камуністычнаму Міжнароднаму Жаноцкаму Дню. Даклад пра няволніцкае палажэньне жанчыны ў СССР стршыні гэтае арганізацыі Валянтыны Калынік, прамовы ведамых антыкамуністычных палітыкаў, у тым былага прэм'ер-міністра Кубы М. Варона, дырэктара Аддзелу Нацыянальнасьцяў Рэспубліканскае Партыі Ляськё Пастара ды прачытаньне прамовы няпрысутнага амбасадара Дамініканскай рэспублікі ў ЗН Дамрон дэ Альба выпаўнілі афіцыйную частку Сымпозіюму.

У мастацкай частцы выклікалі захапленьне кубінскі й калюмбійскі народныя танцы ды танцы й сьпевы Украінцаў. Шкада, што ў гэтай важнай міжнацыянальнай імпрэзе ад Беларусаў прынялі ўдзел адно д-р Ст. Станкевіч і сп-чня Рая Станкевіч, хаця запрошаныя былі многія. Яшчэ большая шкада, што ў мастацкай праграме ня было беларускіх нумароў, і гэта зь віны самых Беларусаў, бо ў праграме, пададзенай у запросінах, фігуравалі й беларускія мастацкія выступленьні.

# З НАЙНАВЕЙШЫХ ВЕРШАЎ НІЛА ГІЛЕВІЧА

**

Летняй ночкай, чуйнаю, як звон,
Дзесь між Прыпяцьцю, Дзьвіной і Бугам,
Дзе ад родных пахаў — голаў кругам,
Дзе ад родных гукаў — сьлёзы з воч, —

Зноў і зноў я думаю пра тых,
Хто адсюль за сьвет паехаць мусіў,
І ў хвіліную гэтую чамусьці
Так шкада мне, так шкада мне іх!

**

Даруйце, родныя бары і пушчы,
Зямлі бацькоўскай неацэнны скарб,
Што ня глухі і не сьляпы — відушчы
Ня чуў, ня бачыў вашых сьлёзных скарг.

Ламаў вам рукі варвар, рэбры трушчыў,
Смаліў агнём, зялезамі крамсаў . . .
Даруйце, родныя бары і пушчы:
Ня ведаў я, што з вамі гіну сам.

**

Услаўлялі яго, запляталі ў вянкі,
Потым кпілі зь яго, абзывалі ўсяляк,
А ён моўчкі цьвіце, як і цьвіў праз вякі,
І прызнайцеся шчыра, нашчадкі сялян:

Ці-ж ня сумна было-б гэтай сьцежкай ісьці —
Між густой збажыны, каб хоць рэдка здалёк
Сінім вокам сваім не глядзеў, не сьвяціў,
Ня трывожыў шчымліва душу васілёк?

**

У пушчы птах лясны лятае нізам,
Дзе пастарней, няма сукоў-галін,
Дзе, не забіты дробнарослым хмызам,
Лес камялі па пахі агаліў.

О, дружа-браце, не рабі дэвізам,
Але запомні — гэта варта знаць:
У пушчы птах лясны лятае нізам,
Каб крыльле аб сукі не паламаць.

*

Няма на сьвеце горшае брыды,
Як здраднік — вырадак і адшчапенец,
Што даражэй свой хлеб сабачы цэніць
За родны край, дзе сьпяць яго дзяды,

Што нават выракся імя свайго
І на Радзіму брэша ў злобе дзікай,
Таго ня знаючы, што ёй, вялікай,
Агідна нават плюнуць на яго!

(„Літаратура і Мастацтва", 26 сакавіка 1971)

**Ніл Гілевіч** — адзін з найвыдатнейшых сучасных беларускіх паэтаў, нарадзіўся ў 1931 годзе на Лагойшчыне. Скончыў філялягічны факультэт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску й працуе сяньня дацэнтам беларускай літаратуры гэтага ўнівэрсытэту. Выдаў некалькі зборнікаў свае паэзіі.

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Ветліва прашу зьмясьціць у чарговым нумары газэты наступнае: „У разасланым пад канец сакавіка г. г. д-рам П. Маркоўскім ягоным апошнім студэнцкім нумары „ВЕЧА" ёсьць зацемка — „Веча й Нахвала „Веча", з подпісам А. СЬВІСЛАЦКІ.

Запрадны А. Сьвіслацкі ўжо больш за 20 гадоў, як публікуецца ў беларускай прэсе і таму ён спадзяецца, што паважаныя чытачы лёгка адрозьняць ягоны спосаб выказваньня думак ад таго, што зь невядомых прычынаў падшываецца пад ягонае імя.

А. СЬВІСЛАЦКІ гэтай дарогай выражае свой пратэст супраць нячуванага дагэтуль у журналістычнай практыцы злоўжываньня чужога імя ды сьцьвярджае, што ён нічога супольнага ніколі ня меў і ня мае зь „ВЕЧАМ" д-ра П. Маркоўскага.

**25-га сакавіка 1971 г. А. Сьвіслацкі**

### ПАХОВІНЫ

На жаданьне хворай маці — Любы Хрэноўскай — сын Анатоль выклікаў Уладыку Мікалая з Таронта ў Монтрэаль. Але, на вялікі жаль, на другі дзень 18 лютага сёлета, калі Япіскап прыехаў, не застаў ужо Хрэноўскай жывой. Паховіны памерлае Любы Хрэноўскае адбыліся 20 лютага. Абрад пахаваньня ўрачыста адслужыў Праасьвяшчэнны Мікалай у асысьце пратапрасьвіцера Уладзімера (Сьлюсара) і а. Ігара (Куташа) — сьвятароў Украінскае Грэцка - Праваслаўнае Царквы, у прыгожым Саборы Сьв. Софіі ў Монтрэалі.

Нябожчыца Люба, з дому Лявончык, нарадзілася на Слонімшчыне. Яна пражыла ў прыкладным сужэнстве із сваім мужам Янам 48 гадоў. Як нябожчыца Люба, гэтак і яе муж Ян з часоў маладосьці сваёй былі сьведамымі Беларусамі. Яны адныя з тых, што прыкметна памагалі аднаўленьню БАПЦ пасьля вайны.

Сьв. пам. Люба пакінула ў смутку мужа Яна, сыноў Яна й Анатоля, дачку Зіну і ўнукаў. Цела памерлае пахаванае на магільніку Мон Роял у Монтрэалі. Хай будзе ёй лёгкай канадыйская зямля!

### ПАПРАЎКА

У паквітаваньні Беларускага Камітэту выданьня Бібліі атрыманых ім дароў на апошняй бачыне № 166 „Беларуса" сталася друкарская абмылка: заміж надрукаваных 5 даляраў дару ад сп. Аляксандры Міцкевіча мае быць 10 дал. У наказе Навуковага Т-ва Скарыны, там-жа й на тым-жа месцы, што кнігу М. Шчакаціхіна можна яшчэ купіць, сталася абмылка ў адрысе Таварыства: Мае быць: 275 Genovieve Ave., Hawthorne, N. J. 07506.



### СХОД БЕЛАРУСАЎ МЭЛЬБУРНУ

28 сакавіка сёлета, зараз пасьля незалежніцкага сьвяткаваньня, адбыўся ў тэй-жа залі чародны Агульны Сход Беларусаў Мэльбурну, які адчыніў чародны старшыня Беларускага Цэнтральнага Камітэту У. С.

Пасьля выбару сп. М. Нікана за старшыню Сходу, былі зробленыя справаздачы з дасюлешняй дзейнасьці старшынём і скарбнікам Камітэту. Пасьля правядзеньня дыскусіі над справаздачамі, Сход прызнаў уступаючай Управе, выбранай Агульным Сходам у 1968 годзе, абсалюторыюм з падзякаю.

Была выбраная новая Галоўная Управа Камітэту, у якую ўвайшлі ўсе, за выняткам аднаго сябра ранейшае Галоўнае Управы, ды Рэвізійная Камісія на наступныя два гады. Была прадыскутаваная справа набыцьця собскага Беларускага Дому ў Мэльбурне.

Можна спадзявацца, што новая Управа Камітэту з новай сілай будзе прадаўжаць карысную справу ўправы старой, чаго належыцца ёй моцная пажадаць.

**М. Н.**

### ПАМІНКІ

У сыботу 6 сакавіка сёлета Япіскап Мікалай у асысьце прат. а. Сьцяпана (Гуцуляка) — сьвятара Украінскае Грэцка-Праваслаўнае Царквы ў Канадзе адслужыў сьв. Літургію й Паніхіду ў царкве Сьв. Пакровы ў Ашаве па сьв. пам. Яну Мышкоўскім. Вялікая грамада знаёмых нябожчыка і ўдавы Ганны Мышкоўскай з Ашавы, Таронта й Оквілю прыйшла ў царкву памаліцца за душу сьв. пам. Яна. Гэта былі першыя ўгодкі пасьля сьмерці нябожчыка. У часе службы сьпявалі сп. сп. М. Ганько й М. Аляксеевіч.

Жонка нябожчыка Ганна Мышкоўская запрасіла ўсіх прысутных на памінкавы абед да сябе ў хату.

**Грыбок**

### „ЛЯВОНІХА" Ў ШКОЛЬНАЙ МІЖНАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПРАГРАМЕ

Сёлета 4 красавіка ў залі Элк Клюбу ў Кальвэр Сіты ў Каліфорніі адбыўся інтэрнацыянальны школьны фэстываль, зладжаны Школьным Дыстрыктам гораду Мар Вісты. У праграме фэстывалю выступіла беларуская танцавальная група зь Лёс Анджэлесу зь „Лявоніхай" у нацыянальных касьцюмах пад кіраўніцтвам сп-ні Каці Вініцкай. Перад выступленьнем кіраўніцтва праграмы паінфармавала пра беларускі народны характар „Лявоніхі". У складзе групы танцавалі Аня й Люся Вініцкія. Група запрошаная ўжо да ўдзелу ў іншай праграме.

**Н.**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"

**За папярэдні перыяд (месяц сакавік) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса":**

**1. Падпіска й ахвяры з Аўстраліі:**

| | |
|---|---|
| 1. М. Нікан ад Беларусаў Мэльбурну | 95.26 |
| 2. П. Трысмакоў | 6.32 |
| **Усяго** | **$ 101.58** |

**2. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | |
|---|---|
| 1. Д-р В. Тумаш | 20.00 |
| 2. а. Карп Стар | 20.00 |
| 3. М. Грэбень | 15.00 |
| 4. М. Калядка | 10.00 |
| 5. В. Дутка | 10.00 |
| 6. П. Міраповіч | 10.00 |
| 7. А. Беленіс | 10.00 |
| 8. Ул. Брылеўскі | 10.00 |
| 9. В. Шудзейка | 10.00 |
| 10. Д-р В. Васілеўскі | 10.00 |
| 11. Д-р В. Васілеўскі за клішэ | 10.00 |
| 12. С. Татарыновіч | 10.00 |
| 13. а. П. Шпірук | 8.00 |
| 14. В. Пелеса | 6.00 |
| 15. П. Орса | 6.00 |
| 16. І. Пячонка | 6.00 |
| 17. А. Бжэнк | 6.00 |
| **Усяго:** | **$ 177.00** |

**3. Сабрана сп. Б. Даніловічам сярод Беларусаў у Нью Джэрзі:**

| | |
|---|---|
| 1. а. В. Войтанка | 30.00 |
| 2. Аддзел БАЗА за клішы | 20.00 |
| 3. Д. Дзядовіч | 12.00 |
| 4. Ю. А. | 12.00 |
| 5. М. Васіль | 12.00 |
| 6. А. Балкоўскі | 10.00 |
| 7. В. Стома | 10.00 |
| 8. П. Кажура | 10.00 |
| 9. А. Кудасаў | 10.00 |
| 10. М. Палюховіч | 6.00 |
| 11. М. Каранеўскі | 6.00 |
| 12. Я. Літвіненка | 6.00 |
| 13. В. Машанскі | 6.00 |
| 14. П. Талмачэвец | 6.00 |
| 15. Т. Супрун | 6.00 |
| 16. А. Дубяга | 6.00 |
| 17. В. Сьліўка | 6.00 |
| 18. А. Субота | 6.00 |
| 19. М. Касьцюк | 6.00 |
| 20. М. Войтанка | 6.00 |
| 21. А. Даніловіч | 6.00 |
| 22. Ф. Родзька | 6.00 |
| 23. П. Белаец | 6.00 |
| 24. Я. Місюль | 6.00 |
| 25. А. Стагановіч | 6.00 |
| 26. Н. М. | 6.00 |
| 27. Я. Г. | 6.00 |
| 28. Я. Кузьменка | 6.00 |
| **Усяго** | **$ 240.00** |
| **Усяго разам:** | **$ 518.58** |

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**